PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2112) Год XLI Беласток 3 лістапада 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Пятро Германюк з Аўгустова з дачкой Людмілай, жонкай Уладзіславай і ўсімі любімым сабакам Мішкам.* Рэпартаж Ады Чачугі „У чужым асяроддзі або Тыповы кацап” чытайце на стар. 8.

Мікола Ваўранюк

## Файная школа

**„Родная мова як маці — яе нельга ніколі забыць”! — пад такім лозунгам вядзецца ў нас навучанне беларускай мовы. Тым часам настаўнік гісторыі Гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген ВАПА правёў сярод мінулагодніх першакласнікаў простае апытанне: чые бацькі звяртаюцца да іх па-беларуску? Хапіла пальцаў аднае рукі, каб палічыць вучняў з самой Гайнаўкі — на 130 асоб, больш-менш, дзве трэці, — якія хоць зрэдчас чуюць дома беларускую мову.**

**Васіль Сакоўскі** працуе ў ліцэі трыццаць чацвёрты год. За гэты час адбыліся тут вялікія змены, так на лепшае, як і на горшае. Лепшы, безумоўна, новы будынак, здадзены ў карыстанне тры гады таму. *Такіх варункаў, як у нашай старой руіне, цеснай, з перажэртымі грыбом сценамі, цяжка было б знайсці ва ўсёй Польшчы,* — успамінае ён невясёлае і зусім яшчэ свежае мінулае. Калі закончыцца пабудова гімнастычнай залы і басейна, дык наогул будзе раскоша. Але беларускую мову навучаць цяпер цяжэй, лічыць Васіль Сакоўскі:

— Раней да нас ішлі, галоўным чынам, дзеці з вёсак, якія на штодзень карысталіся беларускімі дыялектамі, ведалі і шанавалі народную традыцыю. Беларуская культура была ім блізкая. Сённяшняя спаланізаваная гарадская моладзь не разумее беларускай мовы, многім здаецца яна непатрэбнай.

**З чаго пачынаць?**

У ліцэі здараюцца класы, у якіх выразная большасць не вучылася раней беларускай мове. Не вучыліся яны і рускай — увогуле не сутыкнуліся з кірыліцай.

— Заняткі ў першым класе пачынаем з паўтарэння алфавіту, — гаворыць **Вольга Сянкевіч**, — тыя, для каго гэта навіна, мусяць пасядзець больш над кніжкай дома. Але я б не сказала, што засваенне кірыліцы даецца асабліва цяжка. На ўроках я шмат часу на гэта не адводжу. Найбольшыя праблемы — з ётавымі.

У першым класе, калі вучні не разумеюць самых элементарных слоў, як *дарога* ці *сшытак*, нейкая там гісторыя беларускай літаратуры — гэта чорная магія. Таму, лічыць спадарыня Сянкевіч, трэба браць як найбольш свабодных тэм, вучыць іх гаварыць. Як дапаможнік часта выкарыстоўваецца „Ніва”. Асабліва прыгодныя кароткія артыкулы ў „Зорцы” пра народныя святы, традыцыю, гістарычную спадчыну (*добра яшчэ было б даваць побач тлумачэнні незразумелых слоў*). Вучні ў сямі-дзесяці фразах пераказваюць змест артыкулаў, пішуць кароткія сачыненні на простыя тэмы.

— Важна, каб у маладых галовах беларушчына не явілася самотнай выспай, — кажа Вольга Сянкевіч, — а ўспрымалася як самародная і непаўторная частка сусветнай культуры. Я на ўроках не аддзяляю беларускай літаратуры ад польскай, ад еўрапейскай. Паказваю, што літаратура Беларусі стваралася і на іншых мовах — польскай, лацінскай. Няма ў мяне перыяду г.зв. літаратуры Кіеўскай Русі, а ёсць славянскае пісьменства тае пары, якую характарызавалі і войны між Кіевам і Полацкам. Вялікае княства Літоўскае мы называем, згодна праўдзе — Беларуска-Літоўскім. Паказваем сувязі з польскай культурай таго часу. Мне не трэба, каб яны на памяць зубрылі біяграфіі, вучыліся датаў і часцей мовы, а каб яны зразумелі пэўныя працэсы і з'явы.

— За час вучобы ў нас заўсёды знаходзіцца група моладзі, — кажа Васіль Сакоўскі, — у якой наглядаецца рост зацікаўлення беларускай праблематыкай, у якой родзіцца беларуская свядомасць. Гэтая моладзь найбольш цэнная нам, нашаму тут нацыянальнаму адраджэнню.

**Чаму выбіраюць гэту школу?**

— Моладзь наогул актыўная і многага ім хочацца, — кажа Вольга Сянкевіч, — але не заўсёды ўдаецца ажыццявіць цікавыя задумы. Няма ў іх часу. Кожны дзень у школе па сем-восем гадзін. А найцяжэй тым з-па-за Гайнаўкі, што ў школу даязджаюць.

Апрача ўсіх іншых абавязкаў, у гэтай школе — яшчэ чатыры гадзіны бе-

*(працяг на стар. 3)*

Міра Лукша

## Эксперыменты са смерцю

**Шукаюць фактаў пад зямлёй. 23 кастрычніка г.г. давялося адкапваць цела памерлага чатыры гады таму Міколы Анапюка. Маці Міколы, Аляўціна, хоча даказаць, што не „Лада” яго забіла, сама скаціўшыся да гаража, а сваяк, які зненавідзеў іхнюю сям'ю.**

Кілаграмы папер, адкліканняў, скарг, жалаб, экспертыз. І сфальшаваных дакументаў, якіх падробкі пацверджаны графолагам.

Калі маці прыехала на месца „выпадку”, сэрца сына-блізнюка яшчэ біла, але не прыйшоў ён у памяць і праз чатыры дні ў бальніцы. Ён сказаць ужо не мог нічога. Яшчэ

**ў бальніцы**

дзяжурны ўрач здзівіўся, што ў дзевятнаццацігадовага вучня Механічнага тэхнікума толькі разбітая галава, хаця яго быццам прыдушыла да сцяны аўтамашына. З пасведчання Клінікі неўрахірургіі ў Беластоку вынікае, што паламаны косці твару і чэрапа, але лекары не знайшлі ніякіх пашкоджанняў знутры. Першы раз бачылі такое. У экспертызе з Установы судовай медыцыны сцвярджаецца, што пашкоджання М. Анапюка учынены „тупой або з тупымі берагамі прыладай”, але не выключылі, што гэта мог бы ўчыніць аўтамабіль, які скаціўся з пахілага месца. Тым больш, што на машыне не было следу крыві, а на сцяне, пакрытай далікатным вапенным растворам і шкельцамі — ні рыскі. А пагнутая бляха на машыне — нібыта ад калена або галавы пацярпелага.

Лекар са скорай дапамогі і санітары здзівіліся, што някранутыя былі ногі пацярпелага. Іх сведчанні не былі ўзяты пад увагу. Паліцыянт Ян К., які апынуўся на месцы выпадку, хутка сфармуляваў дакумент, з якога вынікала, што каля дзесятай вечара 27 сакавіка 1992 г. Мікола Анапюк загінуў, смяртэльна прыціснуты аўтамабілем да сцяны гаража.

**Такая версія**

была прынята афіцыйна і ад яе не хацелі і не хочуць адступіць органы паліцыі і справядлівасці, хаця даказваецца ім, што ўжо ў першых сцвярджэннях поўна памылак і звычайнай хлусні.

Вось напрыклад: у пратаколе пададзена, што адлегласць ад брамы гэта 480 см, калі ў сапраўднасці — 920 см. „Каронны сведак”, які знайшоўся, мяняў версіі таго што бачыў: раз бачыў і чуў, як машына ехала па вуліцы, пасля Мікола мінуў брамку; бачыў, як пацярпелы выходзіў з машыны, дзе пасля знайшоў ягонае цела, пасля змяніў

*(працяг на стар. 9)*

# Мы прачыталі

*W Chinach kara śmierci grozi za chuligaństwo i rozpowszechnianie pornografii. Za jazdę pociągiem na gapę w chińskiej praktyce sądowej karze się — 3 lata więzienia;*

*— za posiadanie Biblii — 4 lata;*

*— za posiadanie Powszechnej Deklaracji Praw Człowieka — od 5 do 19 lat;*

*— za prowadzenie działalności kaznodziejskiej — 7 lat;*

*— za wznoszenie okrzyków — 8 lat;*

*— za opublikowanie artykułu w Hongkongu — 18 lat;*

*— za prowadzenie zebrań dyskusyjnych — 20 lat;*

*— za kradzież samochodu — kara śmierci;*

*— za ćwiczenia tradycyjnych odmian Kung-Fu — kara śmierci;*

*— za rzucanie jajkiem w portret Mao — dożywocie;*

*— za nieterminowe płacenie podatku — kara śmierci.*

*W Chinach tortury i donosy pozostają niemal jedynymi metodami zdobywania informacji. Za przestępstwa gospodarcze najczęściej skazuje się człowieka, który podpadł politycznie, naraził się sekretarzowi lub konkurentom na rynku czy w walce o stanowisko dla kogoś lepiej ustawionego. Informacjami uzyskanymi przy pomocy tortur można udowodnić każdą winę. Często po kilkuminutowym procesie sądowym skazuje się oskarżonych na karę śmierci w zawieszeniu na 2 lata. Skazanego umieszcza się wówczas w obozie koncentracyjnym, gdzie w ciagu 2 lat ma on uzyskać uznanie swoich oprawców. Jeżeli nie zdoła im się przypodobać w warunkach podobnych do oświęcimskich, zostanie stracony.*

*Jeżeli wykaże się postępami w resocjalizacji, to śmierć zostanie mu zamieniona na dożywotni pobyt w obozie koncentracyjnym. Dalsze losy skazanych na śmierć w zawieszeniu pozostają nieznane.*

*Gazeta Wyborcza, nr 239*

* * *

*Osobisty lekarz czterech ostatnich komunistycznych władców Kremla żartował kiedyś, że w żyłach radzieckich przywódców płynie więcej wysokoprocentowego alkoholu niż krwi. Sam wiedział najlepiej, ile w tym kryło się prawdy. Polski prezydent podczas pobytu na Białorusi co raz bardziej bełkotliwie odpowiadał na pytania dziennikarzy i w końcu ruszył do samochodu, ale nie trafił i usiłował wejść do bagażnika. Paweł Dzik minister finansów Białorusi pod koniec września miał wyraźne kłopoty z podejściem do mikrofonu. Dziennikarz „Biełoruskoj Diełowoj Haziety" napisał, że minister dlatego nie używa noża, jedząc obiad w rządowej stołówce, by „nie pomylić własnego palca z parówką". Zdaniem niemieckiego ministra finansów Alexa Möllera 30 proc. niemieckich parlamentarzystów to alkoholicy. O Borysie Jelcynie czy domu poselskim w Warszawie nie ma sensu wspominać.*

*Wprost, nr 41*

* * *

*Święłuje się kolejne rocznice wybuchu powstania warszawskiego. Nie święłuje się kolejnych rocznic jego agonii, gdy kwitnące miasto stało się muzeum min i zgliszcz, mauzoleum śmierci.*

*Polityka, nr 41*

* * *

*PSL — w odróżnieniu od innych formacji politycznych — troszczy się o wszystkie dziedziny życia kraju* — сказаў Вальдэмар Паўляк.

*Gazeta w Białymstoku, nr 240*

І таму ўсё пастаянна таннее ў крамах, а асабліва харчовыя прадукты.

* * *

*Akcja Wyborcza „Solidarność" obwąchuje PSL i oznajmia, że PSL pachnie ładnie, bo bezdomnej kobiecie w skrajnej nędzy PSL nie pozwoli na usunięcie ciąży. W Suwałkach dzieciaki z podstawówki podpisały listy przeciwko aborcji, bo ksiądz tak kazał. Jest dobrze. Za rok z ekranów telewizorów będzie nam słać uśmiechy para wypomadowanych amantów — Krzaklewski—Pawlak. A możeby przeprowadzić plebiscyt — który przystojniejszy,* — пытае Станіслаў Тым.

*Wprost, nr 41*

* * *

*Olimpiada w Atlancie w telewizji amerykańskiej to szowinistyczny szou. Obejrzenie jakichkolwiek zmagań olimpijskich było tu niemożliwe, chyba, że finał jakiejś dyscypliny nie trwał więcej niż kilka minut, ale i wtedy trudno było zorientować się, w jaki sposób do finału doszło i kto w ogóle startował. Przed finałem biegu na 200 metrów nie ujawniono, kto stanowił konkurencję dla bezsprzecznie najlepszego, amerykańskiego biegacza Michaela Johnsona. Za Amerykaninem biegła zatem zgraja kolorowo odzianych, mało ważnych facetów, których narodowości można się było jedynie domyślać. W transmisji z Atlanty Amerykanie stosowali prostą zasadę — tam gdzie nie było ich zawodników, lub gdzie byli bardzo słabi, nawet nie instalowali kamer telewizyjnych. Sieci telewizyjnej NBC należy się zdecydowanie złoty medal za niczym nieskrępowany wszechobecny szowinizm.*

*Dziennik Związkowy, 11.08.1996 (Chicago)*

* * *

*Fakt, że wszyscy pijemy okrutnie. Gdyby wszyscy chlali denaturę, nie byłoby tego całego cyrku. Spirytus fioletowy, jaki jest, każdy widzi, a w razie czego można by było zrzucić na miłość narodu do preparatów. Jak puszcza człowiek pawia denaturką, w sam raz wychodzi taki kolorek.*

*Gazeta Tygodniowa, nr 15*

Нехта ўжо гэта праверыў?

# З мінулага тыдня

**Унія вольнасці** будзе патрабаваць ад польскага ўраду адпаведнага рэагавання на магчымую прэзідэнцкую дыктатуру ў Беларусі. Лідэры Уніі, якія былі гасцямі арганізаванага дэмакратычнымі сіламі ў Менску кангрэсу супраць прэзідэнцкай дыктатуры, сцвярджаюць, што ў выпадку пашырэння правамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі Польшча павінна замарозіць дыпламатычныя адносіны з гэтай краінай. Пасол Сейма ад Уніі вольнасці **Богдан Барусэвіч** мяркуе, што імкненне Лукашэнкі падпарадкаваць сабе заканадаўчую і судовую галіны ўлады — гэта сапраўднае ўвядзенне прэзідэнцкай дыктатуры, якая можа таксама пагражаць суседзям Беларусі. На думку членаў Уніі, якія вярнуліся з Беларусі, пагроза канстытуцыйнага канфлікту пакуль што адтэрмінавана. У суботу 19 кастрычніка адбылася дэманстрацыя супраць дыктатарскіх памкненняў прэзідэнта.

Па ініцыятыве пасла ад ПСЛ **Яцка Паўліцкага** падрыхтаваны праект змяненняў у палажэнне аб выбарах у Сейм, які прадугледжвае **скасаванне льгот для нацыянальных меншасцей**. На яго думку, праект напраўлены на ўраўнаванне ўсіх грамадзян Польшчы ў выбарчых шанцах. Кандыдаты ад нацыянальных меншасцей у цяпер дзеючым выбарчым законе вызваляюцца ад абавязку перасягнуць 5-працэнтны выбарчы парог. Пад праектам падпісаліся дваццаць паслоў розных палітычных арыентацый. Паўліцкі заявіў, што калі праект падтрымае 60 паслоў, тады накіруе яго на далейшы разгляд.

**Мікалай Бушко** — дырэктар Гайнаўскага дома культуры і стваральнік вядомага ва ўсім свеце Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі — стаў лаўрэатам VII конкурсу на ўзнагароду і медаль Зыгмунта Глёгера. Арганізатарам глёгераўскіх конкурсаў з'яўляецца Грамадскае прэсазнаўчае таварыства „Стопка" ў Ломжы, а ўзнагароджваюцца ў ім людзі і ўстановы, якія ўносяць асаблівы ўклад у даследаванне і захаванне старапольскай і народнай культуры, а таксама арганізатары культурнага жыцця.

**NTV** — тэлестанцыя „Наша тэлевізія" атрымала дазвол на распаўсюджванне сваёй праграмы па ўсёй краіне. У Беластоку NTV намерваецца пабудаваць тэлеперадатчык і адкрыць сваю рэдакцыю. NTV мае быць тэлевізіяй сямейнай, у праграмах якой будзе многа інфармацый, фільмаў, спорту і даведачных перадач.

**III Сустрэчы нацыянальных меншасцей у Пуньску** прыцягнулі ўвагу нацыянальных меншасцей паўночна-ўсходняй Польшчы — літоўцаў, беларусаў, украінцаў, ромаў (цыганоў), а таксама прадстаўнікоў польскай меншасці з Вільні. У ходзе трохдзённай сустрэчы адбыліся дыскусіі на тэму праблемаў нацыянальных меншасцей і прэзентацыя мастацкіх калектываў.

**IV Сустрэчы з сакральнай паэзіяй і музыкай у Заблудаве** былі нагодай для выступленняў 29 калектываў і двух салістаў. Канцэртам спадарожнічалі выстаўкі сакральнай скульптуры, жывапісу і фатаграфіі. Журы агляду прысвоіла Гран-пры Дзіцяча-маладзёжнаму хору Свята-Мікалаеўскага сабора ў Беластоку.

**На беластоцкіх аўтазаправачных станцыях ЦПН** зноў бракуе паліва. Пасля нядаўняга недахопу дызельнага паліва, гэтым разам бракуе этыліну 94 і 95. Апошнім часам станцыям дастаўляюцца малыя колькасці тавару — толькі па 4 тысячы літраў бензіну, калі нармальна прымаюць яны да 30 тысяч літраў. У беластоцкім ЦПН не ведаюць, калі будуць большыя дастаўкі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Хацеў забіць лісу, забіў чалавека** — рэпартаж Міколы Ваўранюка з Мілейчыч.
- **У пушчанскай вёсцы толькі сволачы і хворыя не п'юць гарэлкі** — рэпартаж Евы Сцепанюк.
- **Акупацыя Беларусі** ў англасаксонскай літаратуры.

# Весткі з Беларусі

**Прымірэнчы зварот Прэзідыума**

На пасяджэнні Усебеларускага нацыянальнага сходу прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка нарэшце пагадзіўся з датай правядзення рэферэндуму, якую зацвердзіў Вярхоўны Савет краіны — 24 лістапада. Прэзідыум Вярхоўнага Савета канстатаваў, што палітычны крызіс у грамадстве, на жаль, працягвае паглыбляцца. „Адна з яго асноўных прычын — рознагалоссе паміж галінамі ўлады па пытанні змянення канстытуцыйных асноў дзяржавы, — гаворыцца ў звароце, накіраваным у Кабінет Міністраў. — Паводле нашага глыбокага пераканання пакуль што кампраміс магчымы. Мы і цяпер спадзяемся, што агульнымі намаганнямі зможам павярнуць падзеі ў прававы напрамак". Прэзідыум ВС звярнуў увагу ўраду на некаторыя факты: размова ідзе пра тое, што асобныя члены Кабінета Міністраў, прадстаўнікі выканаўчай улады на месцах сваімі дзеяннямі ўмешваюцца ў кампетэнцыю заканадаўчай галіны ўлады і тым самым ускладняюць вырашэнне палітычнага крызісу.

**Цвёрдая пазіцыя дэпутатаў**

Дэпутаты Вярхоўнага Савета праігнаравалі заклік прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і рэзалюцыю Усебеларускага нацыянальнага сходу аб зняцці на рэферэндуме пытання альтэрнатыўнага праекта канстытуцыі. Падчас сесіі ВС, якая адбывалася на другі дзень пасля заканчэння прэзідэнцкага Усебеларускага сходу, дэпутаты нават не змясцілі пытання разгляду рэзалюцыі ў павестцы дня. Такім чынам у планаваным на 24 лістапада рэферэндуме беларусам прыйдзецца адказаць на пытанне, ці падтрымоўваюць яны праект змяненняў у канстытуцыі, падрыхтаваны парламентам, які прадугледжвае ліквідацыю інстытута прэзідэнцтва. Частка з сямі пытанняў, якія выносяцца на рэферэндум, будзе прапанавана прэзідэнтам.

**Прафсаюзны мітынг**

„Так — працы, не — галечы!" — пад такім дэвізам Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі правяла ў Менску мітынг, прымеркаваны да Міжнароднага дня барацьбы за ліквідацыю галечы. Больш за тысячу чалавек, у асноўным работнікі бюджэтнай сферы сталіцы, сабраліся на плошчы Свабоды, каб выказаць сваю незадаволенасць нізкім узроўнем заработнай платы, пенсій, стыпендый, дапамог, ростам беспрацоўя і беднасці. Выступаючыя запатрабавалі ад прэзідэнта і Вярхоўнага Савета пакінуць у баку свае палітычныя амбіцыі і заняцца эканомікай.

**Амерыканскі дар**

Амерыканскі юрыст, доктар Уільям Бонтрагер, прафесар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Менску, паведаміў, што збіраецца перадаць у дар Канстытуцыйнаму суду Рэспублікі Беларусь юрыдычную бібліятэку, прывезеную ім са Злучаных Штатаў Амерыкі. Яна ўяўляе сабой калекцыю з дзесяці лазерных кампакт-дыскаў, якія змяшчаюць у ліку іншага апісанне ўсіх справаў, якія разглядаліся Вярхоўным судом ЗША з 1789 года. Аб'ём інфармацыі, запісанай на дысках, складае амаль 7 гігабайтаў, што адпавядае некалькім тысячам кніжных тамоў. Шчодры дар стаў магчымы дзякуючы фінансаваму і матэрыяльнаму ўдзелу некалькіх выдавецкіх кампаній.

**Змаганне з эротыкай**

Менскія ўлады прынялі рашэнне аб упарадкаванні гандлю друкаванай прадукцыяй эратычнага характару ў сталіцы. Згодна з ім, продаж друкаванай эротыкі дазваляецца ў спецыялізаваных аддзелах кніжных магазінаў прадпрыемства „Белкніга", у магазінах прадпрыемства „Саюздруку", у спецыялізаваных аддзелах камерцыйных магазінаў. Гандаль забараняецца ў цэнтральнай частцы горада, у пераходах метрапалітэна, на рынках, вакзалах, аўтастанцыях, а таксама ў кіёсках, якія належаць прадпрыемству „Саюздрук". За гандаль эротыкай у неўстаноўленых месцах будуць прымяняцца меры адміністрацыйнага спагнання.

**Задоўжаны „Навагрудак"**

Не выйдзе больш у мора сухагруз „Навагрудак", які амаль чвэрць стагоддзя насіў імя старажытнага беларускага горада. Балтыйскае марское параходства, да якога цеплаход быў прыпісаны, страціла яго з-за даўгоў. З гэтай прычыны судна давялося перадаць Бельгіі, якая ў сваю чаргу прадала яго адной з гандлёвых кампаній на Кіпры. Яна і вырашыла прысвоіць цеплаходу новае імя.

# Файная школа

*(працяг са стар. 1)*

ларускай мовы ў тыдзень. Па-суседску — Агульнаадукацыйны ліцэй імя Марыі Кюры-Складоўскай, г.зв. польскі. Чаму не падаваліся на навуку туды?

— Ад старэйшых сяброў мы чулі, што ў гэтай школе файная атмасфера, добрыя адносіны між настаўнікамі і вучнямі, — адказвае I „b" клас.

Некалькі асоб гавораць пра высокі ўзровень навучання, пра тое, што многа выпускнікоў ліцэя паступае ў вышэйшыя школы. Усе выбралі школу самастойна, нікому не казалі бацькі.

— Чым для вас Беларусь, беларушчына?

Маўчанне.

**Што будзе нашым поспехам?**

— Наша, настаўнікаў беларускай мовы роля, спецыфічная, — кажа Васіль Сакоўскі, — навучаем прадмета, ад якога няма практычнай карысці. Калі нараджалася незалежнасць Беларусі, якое было ў Польшчы зацікаўленне ёю! Беларускую мову пачалі вывучаць і ва універсітэтах, і ў вайсковых акадэміях, і ў духоўных семінарыях. А цяпер прыязджаюць адтуль рускамоўныя чыноўнікі, абражаюцца на нас за нацыянальныя сімвалы ў школе, а мы, каб і хацелі, не можам паспець за іхнімі зменамі.

Урок беларускай мовы ў I „b" класе. Вядзе настаўнік **Янка Карчэўскі** — першы год у ліцэі. У зале, паабапал дошкі — вялікія бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня. Вучні паўтараюць, адкуль пайшла назва Беларусь, гавораць пра нацыянальныя сімвалы. Адказваюць па занатоўках, каротка і схематычна. Таксама не відаць ініцыятывы ў інтэрпрэтацыі новай тэмы „Вобраз Беларусі ў вершы Уладзіміра Караткевіча *Белорусская песня*". Але вымаўленне ў большасці добрае.

— Шэсцьдзесят працэнтаў гэтага класа, — кажа настаўнік, — вывучала беларускую мову ў пачатковай школе.

— Я хачу пазнаёміць з багаццем беларускай культуры, — кажа Вольга Сянкевіч, — з прыгажосцю беларускай мовы, з лепшымі творамі літаратуры. Зацікавіць гісторыяй Беларусі, каб вучні шанавалі беларускасць, каб, па меры магчымасцей, маглі гаварыць па-беларуску. А сама менш, каб не было варожасці да Беларусі, да беларускай мовы.

Васіль Сакоўсі:

— З другога класа мы пачынаем лепш пазнаваць нашых вучняў, а яны нас. Ведаем, чаго чакаць адзін ад аднаго. У трэцім-чацвёртым зжываемся з сабою. Многія набіраюцца свядомасці і пачынаюць ставіць пытанні, з якімі ў іншых умовах, дома, у іншай школе яны не сустрэліся б. Наша роля — пакінуць трывалы беларускі след, у сэнсе станоўчым. Спрычыніцца да ўзнікнення тых адзіных і непаўторных пытанняў.

**Мікола Ваўранюк**

# Пажарнікі ў Тафілаўцах

12 кастрычніка праязджаў я на матаровары са сваёй поштай праз Тафілаўцы. Калі ехаў каля пажарнага дэпо, затрымалі мяне сяляне, якія там нешта рабілі. Адзін з іх — Уладзімір Хіліманюк — крыкнуў мне: „Коля! Абавязкова напішы ў „Ніву" артыкул пра наш грамадскі пачын. Бачыш, што мы робім: мяняем аграмадныя дзверы дэпо, бо старыя ўжо спарахнелі".

Зацікавіўся я гэтай справай і пытаю мужчын, хто гэтыя новыя дзверы зрабіў. У адказ чую, што выканаў іх са свайго матэрыялу мясцовы столяр і бізнесмен Грыша Рыбак са сваімі працаўнікамі; у яго аграмадная майстэрня, дзе трачуюць кругляк і па заказу гатовяць дамы і дачныя домікі, якія пасля развозяць па цэлай Польшчы і на месцы складваюць. Разгаварыўся я з пажарнікамі, бо ўсе яны мне знаёмыя як радня. У Тафілаўцах пажарнае дэпо пабудавана яшчэ пры камуне і дзверы ўжо пусцілі, бо няма нічога вечнага на гэтым свеце, і трэба ўставіць новыя. Працу гэту выконвалі: Уладзімір Хіліманюк (старшыня пажарнай аховы ў Тафілаўцах), Ян Роля (камендант пажарнай каманды), Мікалай Корч (скарбнік), Ян Рыбак (сын Яна і Кацярыны) ды шафёр пажарнай машыны „Стар" (а заадно і солтыс вёскі) Мікалай Рыбак з сынам Пятром — выпускніком пажарнай акадэміі ў Варшаве.

Спытаў я яшчэ, дзеля цікавасці, колькі трэба было б заплаціць, калі б такія дзверы прыйшлося недзе купіць. Найменш дзесяць мільёнаў старых злотаў, адказалі мне.

Пры нагодзе: у Тафілаўцах сталі асфальтаваць вуліцу, ды не ўсім гэта даспадобы: адзін гаспадар не згаджаецца на асфальт!

**Мікалай Панфілюк**

# Крыж над капліцай



Над часоўняй св. Мікалая падняты купал з грэчаскім крыжам. Фота М. Ваўранюка

У Бельску-Падляшскім, каля Пачатковай школы н-р 3, на месцы спаленага вайною Свята-Мікалаеўскага манастыра, будуецца васьмівугольная — такая ж, як знішчаная гістарычная званіца — часоўня. Краевугольны камень пад яе пасвяціў сёлета ў маі мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій. А 12 кастрычніка над часоўняй быў падняты купал з грэчаскім крыжам.

На ўрачыстасць тлумна прыбылі вучні „тройкі", жыхары і ўлады горада. Разам з імі маліліся святары Міхайлаўскай царквы аа. Лявонцій Тафілюк і Андрэй Неліпінскі. У гэтай узвышанай падзеі маглі прысутнічаць таксама ўдзельнікі навуковай канферэнцыі ў гонар Яраслава Кастыцэвіча, арганізаванай Беларускім гістарычным таварыствам у суседнім Агульнаадукацыйным ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча.

**(ак)**

# Культура ў свабодны час

19 кастрычніка г.г. суполка *EMPiK Polska* адчыніла ў Беластоку пры вул. Сянкевіча дваццаць сёмы салон продажу. Да канца года салонаў такіх у Польшчы мае быць сорак.

На пытанне, што такое новы *empik* ды яго салоны продажу, адказаў прысутны на адкрыцці прэзас суполкі — **Мацей Тыяс.**

— Мы імкнемся даць пакупніку ўсякі прадукт, які служыць для культурнага правядзення свабоднага часу.

У гэты момант салон продажу прапануе наступнае: каля 1 300 загалоўкаў прэсы, 3 000 кампакт-дыскаў з музыкай, 4 000 кніг, а таксама парфумерную краму і, у канцы лістапада, фотапаслугі *Kodak Express*. Галоўная прыкмета салона — самаабслугоўванне. У рамках беластоцкага *empik* працуе таксама школа моў.

**(ам)**

# Сусед, дай залатоўку

Калі раніцай іду ў краму за пакупкамі, амаль кожны дзень бачу той сам вобраз, які нават у найпрыгажэйшае надвор'е настройвае чалавека вельмі песімістычна. Заўсёды, абапёршыся спіною аб плот, сядзіць каля свайго дому пры вуліцы Пясковай у Беластоку Юрка, малады яшчэ мужчына, але хто яго не ведае, скажа — дзядулька нейкі. Немагчыма акрэсліць, калі апошні раз Юрка памыў рукі, не ўспамінаючы ўжо пра твар ці астаткі валасоў на галаве. Невядома таксама, які колер яго скуры. Паміж барадою і нейкімі сінякамі прасвечваецца нешта падобнае на чорна-шэрую зямлю, на якой сядзіць Юрка.

— Сусед, падыдзі! — хрыплым голасам заклікае абадранец, якога ўсе навокал, а асабліва жанчыны, памятаюць як найпрыгажэйшага хлопца ў Прамысловым квартале горада. — Не маеш часам залатоўкі, страшэнна мне есці хочацца, — кожны дзень як малітву пачынае Юрка гутарку з усімі знаёмымі, што раніцай праходзяць каля ягонага дому. Грошай Юрку ніхто не дае, бо і так ён не пойдзе ў краму купляць булкі на снеданне, а толькі павалачэцца ў найбліжэйшую „мэліну" за шклянкай *дзінатуры*. Два разы, калі вяртаючыся з крамы я ўручыў яму нейкія харчовыя прадукты, Юрка падзякаваў і шчыра заўважыў, што будзе чым прыкусіць, калі сябры знойдуць нешта на добры пачатак дня. Найчасцей каля восьмай раніцы збіраецца Юркава кампанія — хлопцы з Сабалеўскай, Грудзецкай, Пазёмай. Група робіць уражанне гасцей з іншай планеты, быццам бы чалавек глядзеў нейкі фільм з гатунку фантастыкі. Сцяпан яшчэ пару гадоў таму быў знакамітым электрамеханікам, Браніслаў нарадзіўся і вырастаў у багатай сям'і, не ведаючы што такое праца. Усё меў, што было толькі патрэбнае маладому чалавеку. Яго браты ездзяць на навейшых мадэлях амерыканскіх аўтамабіляў.

Штогод нехта адыходзіць з гэтай кампаніі. Летась двое памерла ад перапою ў прытоне пры вуліцы Пясковай. Але даходзіць да іх моладзь. Некаторых удзельнікаў ранішніх сходаў каля дому Юркі дарма чакаюць на занятках настаўнікі пачатковай школы пры вуліцы Лесьнай. А можа і не чакаюць іх, а толькі цешацца, што гэтых вучняў няма на ўроках. Баяцца яны іх дакучлівай прысутнасці, так як і большасць жыхароў квартала. Равеснікаў Юркі ніхто не баіцца, таму што нават цвярозыя — што ім рэдка здараецца — ледзь стаяць на нагах.

Юрка, Сцяпан, Браніслаў і ўсе іншыя з гэтай кампаніі былі жанатымі, маюць дзесьці дзяцей. Жонкі адышлі ад іх, калі хлопцы пачыналі прадаваць дробязі з хатняга аснашчэння. Прадавалі шукаць грошай неардынарным спосабам, але шчасце ім не спрыяла. Лепей маюцца тыя, у якіх яшчэ жывуць бацькі. Пасля развітання з сябрамі маюць яны дзе прапіцца і паесці. Юрка астаўся сам. Маці яго памерла дзесці ў Міхалове, ахвярна дапамагаючы дачцэператрываць побач зяця падобнага да сына. Пасля смерці маці Юрка пачаў з бацькам асаблівае спаборніцтва. Праз пару месяцаў ніхто з іх не цверазеў. Бацька, хаця б з прычыны старасці, стаяў на прайганай пазіцыі. Пахавалі яго два гады таму. Месяц пасля смерці бацькі з вокан іх дому прапалі нават заслоны, а будынак адключылі ад электрасеткі. Нягледзячы на незвычайныя ўмовы, Юркаў дом жыве, заўсёды шмат у ім гасцей, дзверы для нікога там не бываюць закрытымі. Часам круцяцца там і недзе пятнаццацігадовыя дамы. На фоне іх тварыкаў безупынна тырчаць папяросы, быццам бы якая адзнака прыналежнасці да гэтага асяроддзя.

Часам група спыняецца побач прадуктовай крамы, яка адначасова з'яўляецца невычарпальнай крыніцай сродкаў для жыцця на высокім уздыме. Відаць, тэрміналогія, як з рэпертуару рап-гурту „Nagły Atak Spawacza", якою карыстаюцца сябры Юркі, выклікае жахлівае ўражанне сярод жыхароў навакольных катэджаў. Нават там, дзе няма сабак на панадворках, на брамках вісяць шыльдачкі з надпісам „Uwaga, zły pies!". Сусед Юркі мае двух вялікіх сабак. Цяпер, — кажа, — перасталі хадзіць і безупынна прасіць: адзін хлеба, другі папяросаў, трэці залатоўку. І ў куратнікy нічога не гіне. Трэба аднак сказаць, — дадае, — што заўсёды, калі нешта пазычалі, кляліся аддаць, калі толькі разбагацеюць.

**Васіль Кургановіч**

## Новыя вершы

**Уладзімір Сіўко**

### Кляновы ліст

Як парашуцік апусціўся
Лісток кляновы каля ног.
Ён у палёце замарыўся,
Далей ляцець ніяк не мог.

Яшчэ трымцеў, дрыжэў ад страху
Бяссільны, кволенькі лісток.
Яго з галінкі адным махам
Сарваў свавольны вецярок.

Яго падняў ты акуратна
І на далонь мне палажыў.
Накрыў сваёю далікатна
І, здэцца, той лісток ажыў.

Спляліся цесна тры далоні
Супольным грэтыя цяплом.
Тое цяпло яшчэ сягоння
У сэрцах нашых мы нясём.

Усё праходзіць і мінае,
Мінулі лепшыя гады
А лісце з клёна ападае
Сягоння так, як і тады.

З любоўю кнігу адкрываю
З прыгожай назваю „Вянок".
З тае пары у ёй, я знаю,
Ляжыць кляновы той лісток.

# Пакаленне, якога не стала

Сёлета ў Беластоку выйшаў зборнік успамінаў чатырох ураджэнцаў Заходняй Беларусі пад загалоўкам „Лёс аднаго пакалення”.*

Праўду кажучы, можна крыху сумнявацца ці ўсе аўтары: Кастусь Сідаровіч, Юстын Прапаковіч, Янка Жамойцін і Віктар Ярмалковіч належаць да аднаго пакалення. Кастусь Сідаровіч нарадзіўся да І сусветнай вайны і помніў час бежанства. Толькі тры астатнія аўтары належаць аднаму пакаленню, народжанаму ў II Рэчы Паспалітай.

Успаміны К. Сідаровіча маюць надзвычайную фактаграфічную каштоўнасць. Ён расказвае пра беларускі нацыянальны рух у сваім родным Беластоку. Мяне, як чытача і гісторыка, уразіла адносная буйнасць гэтага жыцця і яго, так сказаць, арганічны характар. Беларускія арганізацыі дзейнічалі на грошы са складчын сваіх сяброў. Гэтага хапала, напрыклад на тое, каб арандаваць абшырныя памяшканні.

Наша гістарычная памяць характарызуецца разрыўнасцю; толькі цяпер яна становіцца суцэльнай лініяй. Колькі разоў, ды і зусім нядаўна, давялося мне чуць пра тое, што беларуская нацыянальная дзейнасць у Беластоку стала магчымай пры г.зв. народнай уладзе. Сапраўды гэтая дзейнасць у грамадскім маштабе не перавышае даваеннай. Забяры дзяржаўную датацыю і ўся наша дзейнасць развеецца як дым. Іншая справа, што падаткі цяпер такія, што на складчыны не хапае.

Недахопам успамінаў К. Сідаровіча з'яўляецца іхняя празмерная сухасць. У выніку няма ў іх жывых людзей, а расказаць пра іх аўтар пэўна мог бы нямала. І застаецца шкадаванне, што прапаў працяг успамінаў, рыхтаваны К. Сідаровічам да друку перад самой смерцю. Што ж, запісаная папера для аднаго будзе скарбам, для іншага толькі смеццем.

Аўтараў наступных успамінаў аб'ядноўвае вясковае паходжанне, міжваенны перыяд нараджэння і яго месца — Заходняя Беларусь па-за межамі сённяшняй Польшчы.

З гэтых успамінаў на мяне найбольшае ўражанне зрабілі ўспаміны Юстына Пракаповіча. Ён, як адзіны з аўтараў, выводзіцца з сям'і з традыцыяй удзелу ў беларускім нацыянальным руху. Яго бацька служыў у беларускіх вайсковых фарміраваннях з 1917 г. Ваяваў пад генералам Булак-Балаховічам і ў Слуцкім паўстанні. На жаль, Ю. Пракаповіч блытае чарговасць падзей (Слуцкае паўстанне адбылося пасля паходу Булак-Балаховіча). Не піша таксама аб тым, што яго бацька ваяваў пад Рэчыцай (аб чым ведаю ад самога Ю. Пракаповіча), значыць, зайшоў ажно да самога Дняпра. Аўтар падае, што напад на Стоўбцы адбыўся ў 1923 г., падчас як сапраўды гэта было ў 1924 г. З другога боку, успаміны Пракаповіча з'яўляюцца сведчаннем, што напад здзейсніці жыхары навакольных вёсак, а не насланыя з БССР дыверсанты, як гэта даводзіцца пачуць ад польскіх гісторыкаў.

Успаміны Пракаповіча запомняцца мне перш за ўсё двума сюжэтамі.

Першы — гэта праведзеная немцамі мабілізацыя тутэйшага насельніцтва ў 1944 г. Прызыўнікам прапанавалася ўступіць у рады Беларускай краёвай абароны, беларускай паліцыі, або польскай Арміі Краёвай. Тых апошніх на месцы апраналі ў польскія мундзіры і адсылалі ў лес.

Другі сюжэт уражвае сваёй проста літаратурнай вобразнасцю і адлюстраваннем амаль непахіснай любові беларуса да ўсяго, што „рускае”.

Падчас адступлення ў 1944 г. немцы злавілі Ю. Пракаповіча з мяшком нямецкай вайсковай вопраткі. Устанавілі, што вопратка навенькая, значыць, з разбітага складу, а не з трупаў, немцы адпусцілі Пракаповіча вольна.

Зараз жа папаў ён на савецкіх салдатаў, якія ехалі проста ў немецкую засаду. Раней саветы праследавалі яго сям'ю і аднавяскоўцаў, самога Пракаповіча сілай прымушалі падкладаць міны пад рэйкі. Што зрабіў бы чалавек небеларускай нацыянальнасці бачачы саветаў? Безумоўна схаваўся б. Але беларус Пракаповіч перасцярог саветаў, што чакаюць іх немцы. Гэтым самым прыгаварыў на смерць немцаў, якія ніколі яму нічога кепскага не зрабілі і толькі што даравалі яму жыццё, хаця маглі расстраляць.

Саветы „аддзячылі” Пракаповічу па-савецку. Палічылі яго шпіёнам, пасадзілі спераду танка і загадалі везці сябе на месца засады. Дзякуй Богу ўцалеў ён з гэтай паездкі.

Пасля паўнакроўных расказаў Ю. Пракаповіча, успаміны Янкі Жамойціна здаюцца амаль лірычнымі. Рашае аб тым, відаць, характар аўтара, бо перажыў ён вельмі цяжкія выпрабаванні.

У сваіх успамінах Я. Жамойцін вельмі цікава расказвае пра навагрудскую арганізацыю Саюза беларускай моладзі. Пасля вайны саветы вылаўлівалі СБМаўцаў з асаблівай упартасцю. І не выпадкова. Ва ўспамінах Я. Жамойціна СБМ з'яўляецца як арганізацыя, якая выхоўвала моладзь на беларускіх патрыётаў. Такой гэтая арганізацыя была і ў расказах майго бацькі.

Страшэнна мучыцца аўтар, пішучы пра паводзіны ў час адступлення немцаў свайго духоўнага правадыра Барыса Рагулі. Жамойцін відавочна хацеў пазбегчы асуджэння Рагулі. Тым не менш, прыведзеныя ім факты сведчаць недвухсэнсоўна аб тым, што Рагуля проста пакінуў сваіх хлопцаў.

Апошняя частка ўспамінаў належыць „ГУЛАГавай” літаратуры. ГУЛАГ аб'яднаў лёс Я. Жамойціна і Віктара Ярмалковіча. Сустрэліся яны пасля вайны ў польскай турме, не здолеўшы прыхавацца ад саветаў у новай Польшчы. „Народная ўлада” перадала іх саветам.

Успаміны В. Ярмалковіча пачынаюцца з іншай польскай турмы — санацыйнай. У Картуз-Бярозу папаў ён у 1939 г. толькі таму, што быў беларускім дзеячам.

Ярмалковіч шчасліва пражыў Картуз-Бярозу (а расстрэльвалі там амаль да апошняга дня польскай улады). Вельмі цікава апісвае вяртанне дадому і арганізаванасць беларускага насельніцтва, якое дапамагала вызваленым вязням. Маланкавае стварэнне беларускага камітэта прад самой Картуз-Бярозай здзівіла самога Ярмалковіча. Безумоўна, такія факты, як прыведзеныя Ярмалковічам, заахвочваюць да глыбейшага даследавання спробаў устанаўлення беларускага ладу ў час развалу польскай дзяржавы пад ударамі немцаў і саветаў.

Успаміны В. Ярмалковіча маюць таксама вялікую вартасць для гісторыі беларуска-польскіх дачыненняў у час нямецкай акупацыі. Аўтар расказвае аб сваёй працы ў Шчучыне. Палякі, якім немцы часткова перадалі ўладу на месцы, зніштажалі бязлітасна мясцовы беларускі нацыянальны актыў.

Недахопам кніжкі з'яўляецца адсутнасць хаця б сціплага навуковага апарату. На маю думку варта было б прывесці прынамсі даты нараджэння аўтараў і зрабіць зацемкі пра паасобныя гістарычныя асобы і арганізацыі, якія выступаюць ва ўспамінах. Чытачамі кніжкі, з увагі на беларускую мову выдання, будуць галоўным чынам беларусы. Гэта не значыць, што кожны ведае, хто такі Фабіян Акінчыц ці Барыс Рагуля, ды што такое СБМ.

Вышэйсказанае не памяншае каштоўнасці гэтай публікацыі. Аўтары ўспамінаў пішуць пра тое, што самі перажылі і бачылі.

На старонках іх успамінаў выступае процьма людзей. Мы бачым пакаленне, якое следам бацькоў хацела толькі „людзьмі звацца” і заплаціла за гэта змарнаванай маладосцю, ссылкай, блуканнем па свеце і смерцю. Аўтары выжылі, але іх пакалення не стала. Чытаючы „Лёс аднаго пакалення” разумеем, чаму наш народ падняўся на змаганне за сваю годнасць толькі праз два пакаленні пасля вайны.

**Алег Латышонак**

**Лёс аднаго пакалення.* (Успаміны), [К. Сідаровіч, Ю. Пракаповіч, Я. Жамойцін, В. Ярмалковіч], Беласток 1996.

# Лукашэнка — чалавек кампрамісу

Падзеі, якія прайшлі ў Менску ў днях 19-20 кастрычніка паказваюць, што ў Беларусі палітычная сітуацыя не надта мяняецца. Не спраўдзіліся заявы апазіцыі, што на антыпрэзідэнцкую дэманстрацыю 19 кастрычніка выйдзе каля 100 тысяч жыхароў сталіцы. Было іх у пяць разоў менш. Хапала распусціць весткі, што ў гэты дзень на вуліцах Менска пальцеца кроў, каб большасць беларусаў асталася дома. Пакутаваць за дэмакратыю няма зашмат ахвотных. Па гэтай прычыне ўлада Лукашэнкі будзе ўзмацняцца і праўдападобна ў выніку рэферэндуму — „дэмакратычным шляхам” — атрымае ён паўнамоцтвы ад народу стаць першым дыктатарам Еўропы XXI стагоддзя. Зразумела, што многае можа яшчэ здарыцца і магчыма — як заўважаюць менскія журналісты і палітолагі — у Беларусі можа паўтарыцца румынскі варыянт, калі дыктатара брутальна пазбыліся яго прэтарыянцы, пасля падзяліўшы паміж сябою ўладу. Адно ёсць пэўнае, што падчас рэферэндуму, 24 лістапада, чарговы раз прайграе Беларусь. Нідзе і ніхто ў нармальнай краіне не асмеліцца пытаць грамадзян, ці хочуць яны, каб поўную ўладу над імі меў адзін чалавек. Такія сістэмы ўжо даўно моцна скампраметаваліся.

Летам 1993 года ў кнігарнях Менска прадавалася кніжка Оруэла, у перакладзе на расейскую мову, *Год 1984*. Аказваецца, што кніжкі не чыталі грамадзяне, а толькі камсамольцы, палічыўшы яе інструктажом для навядзення больш дасканалага парадку, чым той, які раней стварылі іх духовыя продкі. Ведаем ужо цяпер, што ёсць „рыначны сацыялізм”, магчыма што неўзабаве аб'явяць пра ўзнікненне „дэмакратычнага таталітарызму”.

Некаторыя апазіцыянеры хваляцца, што атрымалі яны перамогу над прэзідэнтам таму, што адступіў ён ад тэрміну рэферэндуму, які раней назначыў на 7 лістапада. У сапраўднасці прэзідэнт выйграў вялікую прапагандысцкую кампанію перад ініцыяваным ім самім палітычным плебісцытам. Паказаўся ён грамадзянам Беларусі як чалавек кампрамісу, які шануе нават волю парламента і можа яшчэ два тыдні пачакаць на абсалютную ўладу. **(рэд.)**

Лена Глагоўская

# Па запрашэнні „Бацькаўшчыны”

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” 5 і 6 кастрычніка 1996 г. ладзіла чарговую (другую) міжнародную навукова-практычную канферэнцыю „Культура і адукацыя беларускага замежжа”. Напярэдадні II З'езда беларусаў свету — у будучым годзе — бачна шмат якія змены наконт зацікаўлення беларусамі ў свеце. Па-першае, у самой Беларусі беларусы ў свеце сталі прадметам зацікаўлення навукі. Як не гавары, прызнавай ці не беларускую эміграцыю — яна ёсць. Праблемы беларускага жыцця даследуе Галіна Сяргеева, кандыдат гістарычных навук з Акадэміі навук Беларусі, прафесар Адам Мальдзіс рыхтуе даведнік „Беларусы ў свеце”. Як паказала канферэнцыя, у Беларусі асобныя аспекты (адукацыя, культура) беларускага жыцця ў замежжы даследуюць таксама Леанід Лыч, Уладзімір Конан, Ларыса Языковіч, Арсень Ліс, Лідзія Савік, Анфіса Ляднёва, Уладзіслаў Канавалаў, Тамара Федарцова, Аляксандра Дзедзінец, Вольга Гапоненка. На канферэнцыю прыехалі таксама даследчкі і дзеячы з розных краін свету. Беларускае жыццё ў Літве прадстаўляла Альма Лапінскене з Вільні. Пра беларусаў у Польшчы гаварылі іх прадстаўнікі: Янка Сычэўскі пра значэнне БГКТ у развіцці беларускай культуры ў Польшчы і Ян Чыквін — пра творчыя дасягненні „Белавежы”. З-за адсутнасці Антона Мірановіча прысутныя не пачулі пра Беларускае гістарычнае таварыства. Такім чынам атрымаўся няпоўны вобраз культуры беларусаў у Польшчы, якая, дарэчы, звязлася да дзейнасці БГКТ і „Белавежы”. Насуперак сцвярджэнням Янкі Сычэўскага, што праз 2—3 пакаленні ўся Беласточчына будзе беларуская, Сакрат Яновіч у сваім рэфлексійным выступленні аказаўся песімістам, звяртаючы ўвагу на тое, што „ў нас без беларускай мовы няма свядомых беларусаў”. Сапраўды, выказванні аптымістычнага песіміста ці песімістычнага аптыміста Сакрата Яновіча прадстаўлялі сумны вобраз нашай беластоцкай рэчаіснасці. Чаму столькі надзеі ў спадароў Янкі Сычэўскага і Яна Чыквіна? Прынамсі я, глядзячы збоку, не назіраю захаплення маладога пакалення на Беласточчыне ні літаратурнай дзейнасцю і ні тым больш бэгэкатоўскай.

***(працяг на стар. 8)***

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 442

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

# Віслава Шымборская

— вядомая паэтка, творчасць якой уяўляе сабою цэлую эпоху ў развіцці польскай літаратуры.

Нядаўна прысуджана ёй Нобелеўскую прэмію, чацвёртую ўжо па ліку ў гісторыі прыгожага пісьменства палякаў. Пасля Генрыка Сянкевіча, Уладзіслава Рэйманта, Часлава Мілаша... Добрая гэта нагода прачытаць па-беларуску паэтычную фразу Шымборскай.

### Канец і пачатак

Пасля кожнае вайны
нехта павінен упарадкаваць.
Сякі-такі парадак
сам, вядома, не зробіцца.

Нехта павінен расчысціць друз,
сапхнуць на абочыну,
каб была дарога
вазам з наваленымі трупамі.

Нехта павінен гразнуць
у шламе ды попеле,
пружынах канапаў,
асколках шкла
і закрываўленых анучах.

Нехта павінен прывалачы бэльку
дзеля мацавання сцяны,
а нехта зашкліць вокны
і дзверы вярнуць на крукі.

Няма ў гэтым фатаграфічнай
прыгажосці
і трэба гадоў.
Усе фотакамеры забралі ўжо
на іншую вайну.

Масты трэба падняць
і вакзалы аднова.
Парванымі будуць рукавы
ўсё закасваныя.

Нехта з мятлою ў руках
усё яшчэ ўспамінае тое былое.
Нехта слухае,
падтакваючы ўцалелай галавою.
Але ўжо побач іх
топчуцца і такія,
якім нудна ад таго.

Нехта часам вось
выкапае пад кустом
праіржавелыя аргументы
ды шпурне іх на купу адпадкаў.

Тыя, хто ведаў
у чым справа тады была,
вымушаны саступіць месца для тых,
якія мала ведаюць.
Нават менш, чымсьці мала.
Або, у рэшце рэшт і нічога.

У траве, якою пазарасталі
прычыны і паслядоўнасці,
будзе нехта спачываць
з коласам у зубах
і бяздумна глядзець на хмары.

### Нічога два разы

Нічога два разы не бывае
і не будзе. Таму гэта
з'явіліся мы на свет без умельства
і памрэм без руціны.

Няхай вучні з нас
самыя тупыя ў школе свету,
усё роўна другагоднікам
аніхто не будзе.

Ніводзін дзень не паўторыцца,
як і няма падобных начаў,
двух аднолькавых пацалункаў,
і такіх жа адзін у адзін паглядаў.

Учора, калі тваё імя
нехта вымавіў уголас каля мяне,
адчула я сябе, быццам ружа
ўпала ў пакой ад расчыненага акна.

Сёння, калі мы абое разам,
адварочваю зрок да сцяны.
Ружа? Якая ружа?
І ці кветка яна? Магчыма, камень?

Чаму ты, благая часіна,
блытаешся з лішнім сполахам?
Ты ёсць — значыць, цябе не будзе.
Мінешся — вось у чым прыгажосць.

Ва ўсмешцы, у абдымках,
намагаемся згоду знайсці,
хоць розніца між намі такая,
як двух кропель чыстае вады.

### Нянавісць

Гляньце, якая ўсё жвавая,
і як добра маецца
нянавісць у наша стагоддзе.
З якой лёгкасцю імчыць дапераду.
Амаль без натугі — скача, дападае.

Непараўнаная з іншымі пачуццямі.
Старэйшая і маладзейшая за іх
адначасна.
Сама нараджае прычыны,
якія абуджаюць яе да жыцця.
Калі засынае, дык ніколі на сон
вечны.
Бяссонне не слабіць яе, а мацуе.

Рэлігія і не рэлігія —
каб толькі ўкленчыць у стартаванне.
Айчына і не айчына —
каб толькі ў бег рынуцца.
Неблагая і са справядлівасцю
ў пачатак.
Пасля ўжо адна імчыць стрымгалоў.
Нянавісць. Нянавісць.
З тварам пакрыўленым грымасаю
любоўнага экстазу.

*Пераклаў С. Яновіч*

# Славамір Адамовіч

— малады беларускі паэт, якога ўлады Рэспублікі Беларусь учынілі арыштантам і падсудным за адзін верш, адвольна інтэрпрэтаваны імі як заклік да антыдзяржаўнага акту. Такое ўжо немагчымае ў Еўропе ані ў Расіі, толькі там, на тым астраўку таталітарызму.

Прыемна адзначыць, што першыя вершы друкаваліся, таксама, і на старонках „Нівы".

Апошнім часам выйшаў з друку ў Менску — намаганнямі сяброў паэта — зборнічак яго новых твораў, **„Каханне пад акупацыяй"**, адкуль і выбрана іх некалькі.

* * *

Калі ты здрадзіш мне аднойчы,
ад гэтай здрады атрымаўшы
так многа-многа асалоды;
калі ты прыйдзеш, пераспаўшы,
калі суцішыш свае воды
з тым, іншым, мне зусім ня братам,
з тым чорным, белым, жоўтым фатам;
калі ты прыйдзеш ці ня прыйдзеш;
калі, унікаючы сустрэчаў,
ты панавацьмеш у сябровак,
альбо ў сяброў, альбо ў прылеску,
альбо ў пясках зімнога мора, —
я не павешуся ад гора,
як, зрэшты, і не расьсмяюся,
я не пайду і не ўтаплюся, —
я ўспомню, дзе ляжаць набоі.

* * *

Зайшла. Расказала пра мужа,
аптэку, праблемы дачкі,
згадала, што трэба стужак
чырвоных купіць і гаршчкі
пад кветкі (растуць яны хутка,
каму, як ня ім, расьці).
Шапнула: „Гуляе чутка,
што могуць па вас прыйсьці".
„Напэўна. І ўжо хадзілі...
Ды што ж нам стаяць вось так?
Пакуль яшчэ не пасадзілі,
давайце мы зьдзейснім акт.
Давайце накрыем белым
казённае кана-пэ
і нашым супольным целам
мы выкажам ворагу „фэ".
Пакуль ён стаіць за дзьвярыма,
мы будзем спружынай рыпець
і пахнуць любоўным зарынам,
і плакаць, і ксьціцца, і пець.
Вы згодны з такім праектам?"
„Я згодна, давайце зьдзейсьняць:
я буду вашым аб'ектам,
які неабходна кахаць..."
І так мы любіліся доўга,
а ён за дзьвярыма стаяў
і кляў на чым сьвет свайго бога,
пакуль канчаткова не зьвяў.
У дзевяць мы выйшлі з кватэры,
зірнулі на скурчаны труп
і сталі сьмяяцца бязь меры
спакусьлівым сьмехам суккуб.

* * *

Я паганы, мне добра з поганьню:
воўк шалёны і ліс худы
мне сябры, зь імі разам гонямі
я бягу да жывой вады.
Мы на ўсход нашы морды ўскінулі,
нашы лапы ўздымаюць пыл,
мы жывём, мы яшчэ не згінулі,
і бяжым не з апошніх сіл.
Сухажыльлі напяўшы патава,
прарываемся напрасткі,
адчуваючы кожным атамам
нашы крушні, ральлю, пяскі.
Мы расістыя, мы рассаднікі
новай волі, нам трэба шмат.
Абмінаючы палісаднікі
мы бяжым на прастор з-за крат.

# Віктар Швед

перакладае польскіх паэтаў Беласточчыны, рыхтуе іх беларускі зборнік. Калі самі паэты больш вядомыя нашаму чытачу, дык паэткі радзей друкаваліся на старонках „Нівы". Таму якраз і прэзентуем некалькі іх твораў са спомненага зборніка.

**Ірэна Сламінская**

### Праўда верша

пісанне гэта не споведзь
нават не зародак жалю
толькі пасведчанне тваёй праўды
гэта ні больш ні менш
як пусты чэк
калі гаворыш мы думаем аб
падобных на сябе
калі гаворыш мы думаем аб
розных ад сябе
паміж імі снуецца тонкая ніць
верша
значыць праўдзівы
значыць ілжывы
арол і рэшка адначасова
ці можа толькі рэшка або
толькі арол
і калі маеш пакручастае нутро
і калі знаходзішся ў пастаяннай
вайне з сабою
і калі не знаходзіш у сябе
прыстанішча
здавайся на маральную праўду
верша

**Анна Марковая**

### Лістападаўскія кніжкі

Гэта іх пара — лістапад
Найлепш калі вечар
Калі раптам гасне святло
І запальваюцца некалькі свечак

Нельга тады адкрываць
Кніжак напышліва новых
Купленых месяц таму
Або толькі ўчора

Гэта гадзіна бабулек
Абшарпаных
Зачытаных
Бязлітасна выгнаных
У чамаданы
У куфры
На гарышча

Гэта іх пара — лістапад
Месяц тых што ласкава
Ляпаюць іх па вокладках
Дабрадушна ўздыхаючы:
„Якая ж ты старасвецкая
Эх, бабулька —"

**Леанарда Шубзда**

### Вяртанні

мая душа
ахвотна вышмыгвае
з чатырох сцен
гарадскога дабрабыту

уцякае
ад спакусліва-мяккіх крэсел

шырокім гасцінцам
вяртаецца да вясковага дому

вітае вочы вакон
застылыя ў чаканні

прысядае
на вытаптаным парозе

прыжмурвае вочы
удыхвае хлебны пах зямлі

акунаецца ў свойскасць
цёплую ад прысутнасці непрысутных

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Залатая восень

Залатая восень
Ходзіць па гаях,
Золатам прыбраны
Кроны на дубах.

Пажаўцела лісце
Трапяткіх асін,
Чырванню палаюць
Гронкі арабін.

Полымем барвовым
Разгарэўся клён,
За раку на сосны
Пазірае ён.

Вельмі ён зайздросціць,
Бо зялёны ўбор
Нават і зімою
Не мяняе бор.

**Авяр'ян Дзеружынскі**

## Малюты другі раз у Тапільцы

13 кастрычніка гэтага года дзеткі з беларуска-польскага прадшколля ў Беластоку наведалі другі раз Тапілец. Са сваімі бацькамі гасцявалі яны ў бацюшкі **Славаміра Якімюка**, які з пачаткам гэтага школьнага года стаў навучаць у прадшколлі Закон Божы. Як і папярэднім разам, выезд дзетак на экскурсію меў сваю НЕЗВЫЧАЙНУЮ МЭТУ. У чэрвені дзеткі святкавалі ў Тапільцы свой Дзень, а на гэты раз — **Święto Pieczonego Ziemniaka.**

Надвор'е нешта зацягвала халадэчай, але дзень быў сонечны, што лепш і не трэба. Як і належыцца ў нядзельку, дзеці са сваімі бацькамі падаліся ў мясцовую царкву на службу. Бацюшку Якімюку прыслугоўвалі ягоныя сыны **Колька** і **Ігар** — таксама навучэнцы беларуска-польскага прадшколля ў Беластоку. Пасля літургіі дзетак чакала вогнішча і засыпванне ў яго бульбы. Пакуль жа бульба тая ў жары пяклася, дзеткі забаўляліся з бацькамі ў падсмажванне каўбасак, бо набліжалася якраз пара абеду. Падсілкаваўшыся, пачаліся дзіцячыя гульні і пацехі. А пачала іх... матушка **Аліна Якімюк**.



Яна, нябачна ўсім, заграбла поўны запол асенне-каляровага клёнавага і каштанавага лістоўя, затым ціхенька падышла да грамадкі дзетак і...

— Восень надыходзіць! — усклікнула ды пасыпала ўсіх дзетак гэтымі асеннімі скарбамі.

Гэтак пачаўся конкурс „Хто каго лепш засыпле лісцем". Пасля яго адбыўся конкурс „Купання ў асенняй лістоце" і.конкурс „Скокаў з царкоўнага мурка на падушку з лісця". У завяршэнне гульняў матушка правяла яшчэ конкурс „Хто сабярэ больш каштанаў".

Гэтым часам вогнішча зусім патухла, а засыпаная ў яго бульба спяклася. Дзеці пачалі лупіць яе са шкуркі і есці — запэцкаліся пры гэтым сажай і попелам бы тыя чарцяняты, але ўсе былі задаволеныя як ніколі дагэтуль.

**Марцін Пштычка**

*Фота Барбары Пякарскай*

## Легенда аб царкве ў Райску

Паводле старой легенды, царква ў сяле Райск паўстала такім чынам. Шмат гадоў таму назад у лесе непадалёк сяла Храбалы ля крыніцы з'явілася ікона Божай Маці. Па сённяшні дзень на гэтым месцы знаходзіцца драўляная капліца-часоўня, у якой б'е жывая вада. Вада там чыстая і заўсёды вельмі халодная. Даўно таму, памешчык Гоўдак меў свой маёнтак у сяле Сталовач. Бачыў ён шмат цудоўных аздараўленняў, якія здзяйсняліся ля крыніцы. Вырашыў ён тады ў гэтым месцы пабудаваць царкву і перанесці там цудоўны абраз Божай Маці. Аднойчы пан ехаў да свайго двара ў Сталовач. Валы, якія цягнулі карэту, спыніліся ў вёсцы Райск і не хацелі ісці далей. Сяляне вельмі прасілі пана, каб на гэтым месцы, на ўзгорку, пабудаваў царкву. Паўстала там драўляная царква „Пяценка" і там вернікі змясцілі цудоўную ікону Божай Маці.

**Оля Гадун, IV клас**



*На здымку аўтарка карэспандэнцыі.*

## Чаму паганцы маліліся дубу?

У час язычніцтва нашы продкі пакланяліся дубу. Гэта магутнае дрэва людзі лічылі каралём расліннага свету. Дуб прыцягваў таксама маланкі і перуны. Людзі верылі, што молячыся дубу, пакланяюцца небу.

У старажытных беларускіх казках сустракаем герояў, якія па дубе лезуць на неба. Менавіта, людзі ўяўлялі, што свет трымаецца на дубе: карона падпірае неба з багамі, а корань з'ўляецца пякельным паселішчам. Пень быў сімвалам нязменнасці і вечнасці.

Дубам карысталіся таксама ў народнай медыцыне. Многія знахары *выганялі* дубовымі галінкамі каўтуны, слепату. Пры дапамозе гэтых галінак ведзьмары чаравалі. Хапіла засушыць дубовыя лісткі і пры маладзіку заткнуць іх у шчыліны збудаванняў свайго ворага. У выніку чараў хварэла ўся сям'я зненавіднага нешчаслўца. „Сохніце і хварэйце, як гэтыя лісты", — меў паўтараць пры маладзіку ведзьмар.

Паганскі культ дуба пачала выкараняць новая рэлігія — хрысціянства. Місіянеры загадвалі паліць не толькі дубовыя фігуркі бажкоў, але і векавечныя, непраходныя пушчы-дубровы. Скончылася, як сёння вядома, тым, што цяжка сустрэць ужо дубовы лес. Толькі ў беларускіх песнях, казках, абрадах дубы шумяць быццам непераможныя асілкі.

**Г. К.**

## Ох

***(беларуская народная казка)***

Жылі-былі маці і сын. Бедна жылі. Сын падрастаў, а ў хаце адны нястачы.

— Павяду цябе вучыцца, — рашыла маці.

Не хацелася малому, але не было выбару. Пайшлі яны ў дарогу. Ішлі-ішлі, на могілках адпачыць спыніліся.

— Ох! — уздыхнула ад гора маці і ў той жа момант Ох прыляцеў.

— Чаго ты мяне звала? — спытаўся Ох.

Маці ад спуду прыгарнула да сябе сына і слова сказаць не можа.

— А куды ты ідзеш? — не адставаў Ох.

— Вяду хлапчука вучыцца. Прайшлі трошку, стаміліся і адпачыць прыселі, — адказала дрыжачым голасам жанчына.

— Давай я твайго сына навучу, — прапанаваў Ох.

Маці падумала і аддала сына.

— Прыйдзі праз тры гады, — сказаў Ох і знік разам з сынам.

Прайшло тры гады...

Маці ўжо зранку з'явілася на могільніку. Вельмі ж засумавала па дзецюку. Паклікала яна Оха, а той з'явіўся і кажа:

— Як угадаеш свайго сына — забярэш, не ўгадаеш — мой будзе!

Вывеў Ох многа жарабцоў. Маці хадзіла, хадзіла, сына не пазнала. Расплакалася яна, загаласіла.

— Ой, што ж мне беднай рабіць цяпер?

— Прыйдзі сюды праз тры гады, — сказаў ёй Ох на развітанне.

Так і было. Зноў прыйшла маці на могілкі і Оха заве. Прыляцеў Ох і кажа:

— Я выведу многа жураўлёў, а ты выбірай сярод іх свайго сына. Як угадаеш — забярэш, не ўгадаеш — не забярэш. Маці і гэтым разам не пазнала сына.

— Слаба я твайго сына навучыў. Праз тры гады зноў прыйдзеш — сказаў і знік недзе з жураўлямі.

Праз тры гады Ох вывеў многа пеўняў. Маці ізноў не пазнала свайго роднага. Расплакалася яна і пайшла дамоў. У дарозе дагнаў яе сын і гаворыць:

— Мама! Наступным разам Ох будзе выводзіць коней. Каля мяне будзе кружыцца муха. Пазней Ох выведзе жураўлёў. Нада мною будзе вісець кветка з ніткаю. На трэці раз Ох выведзе пеўняў. Адзін з іх будзе бегаць каля вуглоў. Гэта буду я. Сказаў ён гэта і пабег назад.

Праз тры гады зноў прыйшла маці. Адгадала яна за кожным разам свайго сына і пайшла з ім дамоў. Заходзяць, а там няма чаго есці. Маці села, заплакала. А сын стаў суцяшаць яе.

— Не плач, мамка. Будуць у нас грошы. Я абярнуся ў жарабца, а ты вядзі мяне на базар і прадай гандлярам. Не бойся, я вярнуся. Абярнуўся сын у прыгожага каня варанога і пайшлі яны на рынак. Там многія вараным захапіліся. Купіў яго гандляр, вядомы ў наваколлі ашуканец. Пахадзіла маці па базары, дабра накупляла і ў хату вярнулася. А там на яе сын ужо чакаў.

**Зорка**

# Два медалі

Распачаўся новы школьны год, а разам з тым пачаліся заняткі ў розных гуртках зацікаўлення і школках.

Я калісь абяцала чытачам „Зоркі”, што буду пісаць пра свае дасягненні ў танцах, дык спяшаюся ізноў расказаць пра тое, што дзеялася ў мяне ў апошні час. Можа, гэта заахвоціць іншых дзяўчат і хлопцаў заняцца гэтым відам спорту. Асабліва патрэбныя хлопцы, бо дзяўчынак наогул на бальны танец запісваецца намнога больш. А тут жа неабходна, каб былі пары!

Мінулы школьны год закончыўся для нашай пары поспехам у Голдапе. 22 чэрвеня мы з Якубам Вайдановічам заваявалі там першае месца і атрымалі залаты медаль.

Голдап аказаўся не толькі шчаслівым для нас месцам, але і прыгожым горадам. Усюды там было чыста і зелена. Якраз канчаўся чэрвень, і ўсё цвіло.

Мы ехалі праз Алецка, у якім меў адбывацца ў жніўні наш трэніровачны лагер, і я ўбачыла салідны чырвоны будынак сельскагаспадарчай школы, у якім мы мелі жыць і трэніравацца.

Летам у Алецку мы працавалі вельмі інтэнсіўна. Трэніроўкі былі да абеду і пасля абеду. Вучыў нас не толькі наш трэнер Кшыштаф Бялявец (клуб „Ціп-топ”, у якім я займаюся, гэта яго клуб). Таксама прыехалі з Лондана майстры танца Кшыштаф Трэнтоўскі з жонкай і праводзілі з намі заняткі.

У сувязі з увядзеннем новых правілаў у танцах, мы амаль увесь час развучвалі новыя праграмы.

На адпачынак мы не мелі занадта многа часу, але ў вольныя хвіліны гулялі ў розныя ігры, хадзілі на возера, купаліся. Возера было ад нас зусім блізка, мо метраў дзвесце ўсяго.

Адразу ў верасні наш клуб арганізаваў агульнапольскі турнір у Беластоку. Назбіралася шмат пар з розных куткоў нашай краіны. Канкурэнцыя была вялікая, а яшчэ ж мы не танцавалі пасля летніх канікул так упэўнена. Усе крыху баяліся, як выйдзе новая праграма. Адным словам, турнір быў цяжкі. З нашага клуба толькі чатыром парам у розных групах (паводле ўзросту) удалося дайсці да фіналу. Мы ў катэгорыі да 12-ці гадоў занялі трэцяе месца і атрымалі бронзавы медаль. Першае месца заняла пара з Варшавы.



*Па залаты медаль. Голдап, 22 чэрвеня 1996 г.*

Дадатковай атракцыяй турніра быў паказ куртак Марыі Блянд, якая была адным са спонсараў турніру. Я дэманстравала куртку брудна-ружовага колеру з цёмна-ружовым штучным футрам. Пасля мне бацькі гэту куртку купілі. Кожны, хто дэмаструваў куртку, мог яе купіць са скідкай.

**Адрыяна СЕМЯНЮК**
**Беласток, школа н-р 9**

## Вершы Віктара Шведа

### Сынок нехарошы падбірае грошы

— Сынок наш нехарошы,
Зладзейская рука.
Ён падбірае грошы
Мне часта з кашалька.

— А можа я забрала,
Не дакучай сынку.
— Ды ты б не пакідала
Нічога ў кашальку.

### Не сказаў нічога

— Нядобры сын, скажы, як след,
Што выказаў табе сусед,
Калі яму ты выбіў
Мячом футбольным шыбу?

— Ён выявіў шмат брыдкіх слоў,
Я паўтарыць іх тут гатоў.
— Маўчы лепш, бойся Бога!
— Дык не сказаў нічога.

### Мамін сынок

Матуля просіць сына:
— Каханенькі Лявон,
Прыціш хоць на хвілінку
Свой магнітафон.

Таму вось што іначай
Твой тата акурат
Ва ўсіх тваіх задачах
Памылак зробіць шмат.

# Дзе хто жыве

### Дом на вадзе

З акна гэтага дома можна лавіць рыбу, бо стаіць ён не на зямлі, а на вадзе.

Такія пасяленні выявілі археолагі — людзі, якія вывучаюць гісторыю па рэштках прадметаў, што захаваліся з мінулых часоў. Адно з іх — у Швейцарыі, на Цюрыхскім возеры.

Але дамы не плаваюць, як лодкі, а стаяць на слупах, забітых у дно, — іх называюць палямі.

Чаму ж людзі сяліліся на вадзе?

Ды таму, што тут яны адчувалі сябе ў большай бяспецы, чым на сушы. З возера лягчэй было заўважыць набліжэнне ворага і хутка заняць абарону. Да таго ж, каб прабрацца ў водны пасёлак, ворагу неабходна было спачатку пабудаваць лодкі або плыты.

І цяпер ёсць пасёлкі і нават гарады, пабудаваныя на палях. Адзін з іх — Венецыя ў Італіі. Замест вуліц тут каналы, і па іх не ездзяць на машынах, а плаваюць на лодках-гандолах або на катэрах.

Каб горад на вадзе не патануў, палі патрэбны своеасаблівыя, якія не ржавеюць і не гніюць. Дзівосная дрэва, якое падыходзіць для гэтай мэты, расце ў нас у краіне. Гэта лістоўніца. Сотні гадоў бярвенні з яе могуць знаходзіцца пад вадой і не псавацца. Італьянская Венецыя якраз і стаіць на палях з сібірскай лістоўніцы.



*Дэкламатары са школы ў Крывой разам з настаўніцай Раісай Ваўранюк.*

# Ян Кароль Хадкевіч

Нарадзіўся ў 1560 годзе і быў адным з самых слаўных гетманаў Вялікага княства Літоўскага, найбольш знакамітым беларускім галоўнакамандуючым XVI і XVII стагоддзяў. Ваенную кар'еру пачаў удзелам у змаганні з казакамі Севярына Налівайкі, якія ў 1596 годзе рабавалі гарады паўднёвай Беларусі.

Пры канцы XVI стагоддзя паўночныя межы Вялікага княства Літоўскага апынуліся пад вялікай пагрозай. У 1598 г. шведы пачалі падпарадкоўваць сабе Лівонію. Узнікала такім чынам небяспека, што закрыюць яны беларусам дарогу да Балтыйскага мора. У 1604 г. Ян Кароль Хадкевіч, маючы ўсяго дзве тысячы жаўнераў, разграміў сямітысячную шведскую армію пад Белым Каменем. Але найбольшую славу Хадкевічу прынесла бітва пад Кірхгольмам. 27 верасня 1605 г. насупраць чатырнаццацітысячнай шведскай пяхоты Хадкевіч паставіў чатырохтысячную сваю прыватную армію. Перамога беларускага магната над шведамі была цалкавітая. Патрацілі яны каля дзесяці тысяч жаўнераў, Хадкевіч — толькі адну сотню. Беларускага гетмана віншавалі з перамогай еўрапейскія манархі.

У 1620 г. пачалася вялікая вайна паміж Рэччу Паспалітай і Турцыяй. Пасля разгрому польскіх войск пад Цацорай туркі ўварваліся ў межы Польшчы. Тады менавіта кіраванне польскім і беларускім войскам яшчэ раз было даверана пажылому гетману Хадкевічу. У 1621 г., маючы семдзесят тысяч жаўнераў, стрымліваў ён пад Хацімам на працягу некалькіх месяцаў атакі звыш двухсоттысячнай арміі туркаў і татараў. Патрацішы надзею на канчатковую перамогу, туркі падпісалі пагадненне аб спыненні на 50 гадоў ваенных дзеянняў супраць Рэчы Паспалітай.

У апошніх гадах хацімскай кампаніі памёр галоўнакамандуючы беларускіх і польскіх войск Ян Кароль Хадкевіч. Туркі, падпісваючы пагадненне, не ведалі нават, што іх пагромшчыка няма ўжо ў жывых.

# Польска-беларуская крыжаванка № 44

| Pokrowiec | Słonina | | Bieda, rozpacz | | Stok | | | | | Okrzyk, wołanie | Zawleczka zapalnika granatu | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Czas | | Cham | | Lakier | | | | | Jedzenie | Tur | |
| Stonka | | | | | | Toast | | Lato | | | | |
| | | | | | | | | | | | | |
| Samojazd | | | | | | | | Kielich, czara | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Наш слоўнік**
*Чака — zawleczka zapalnika granatu.

**Адказ на крыжаванку № 40.**
**Вертыкальна:** гараж, цана, важак, кіно, кон.
**Гарызантальна:** від, пацан, ражок, мана, жакан.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Ірэнэуш Бяроза** і **Магда Пракапюк** з Беластока.
Віншуем.



Талон „Зоркі” № 44
03.11.1996

# У чужым асяроддзі *або* Тыповы кацап

— Быў 1984 год, якраз тады арганізавалі першы ці другі рэйд „Бацькаўшчына". Яшчэ Лёнік Тарасэвіч быў студэнтам, дачку вось маю намаляваў, — **Пятро Германюк** з Аўгустова пакорпаўся ў паперах на шафе і выцягнуў папку, у якой перахоўвае партрэт дачкі Людмілы-Элізы Лёнікавай работы, выкананы алоўкам. — Знаёмая ўкраінка з Аўгустова выехала якраз у Лондан і пакінула мне свае ключы. Кажа: „Як хтосьці будзе, можа начаваць!" Я ўцешыўся, бо якраз Лёнік званіў мне, што менавіта ў Аўгустове нашы студэнты пачынаюць рэйд „Бацькаўшчына".

Ну, я іх там усіх памясціў, арганізаваў ім вечар. Пераначавалі, а пасля паехалі праз Ліпск у напрамку Саколкі. Праз пару дзён наведаў мяне афіцэр з бяспекі. Распытваў пра прозвішчы ўдзельнікаў і іх колькасць, куды паехалі. Я яму адказаў, што ў гасцей пашпартоў не правяраю, а ён можа пазваніць у іх школы і даведацца, хто там такі беларус. А, зрэшты, ці ж яны пагражаюць бяспецы польскай дзяржавы?!

Мы, кажа афіцэр, хочам задбаць пра тое, каб ніхто ім не зрабіў крыўды, калі будуць яны спяваць беларускія песні пры вогнішчы на Аўгустоўшчыне. Можа ж нехта кінуць каменем. А як будуць ізноў ехаць роварамі праз Аўгустоў, дык можам нават затрымаць рух на скрыжаванні, сказаў.

Слухаю я Пятра Германюка і думаю, што гэтыя метады яму вядомыя, бо і сам ён адзін год працаваў у бяспецы. Так, працаваў, пацвярджае ён. На гэтай працы мяне ўсведамлялі: „Які ты беларус, калі ў Польшчы нарадзіўся, Польшча дала табе школу і ясі ты польскі хлеб?!" А я: „Беларусамі былі мае дзяды, прадзеды і я ім ёсць. Я ж не нейкая рукавічка. А школы мне ніхто не падараваў, бо веды трэба было здабываць. Ды і на хлеб зарабляю не менш сумленна, чым палякі". Прыехаў чалавек з Францыі, прозвішча, здаецца, *Kowalsky*, напэўна было *у* на канцы. У канцы падаваў, што ён паляк. Дык я пытаў: „А ці ён паляк, калі радзіўся ў Францыі, там жылі яго бацькі, а прозвішча заканчваецца на *у*? А мне і кажуць: „To świadczy o patriotyzmie, o przywiązaniu do ziemi przodków!" А ў мяне дык нацыяналізм?! — гаркнуў я.

Усё-ткі мяне звольнілі з бяспекі з ярлыком: „nieprzydatny do służby bezpieczeństwa na skutek przejawów nacjonalizmu i niezrozumienia polityki rządu i partii". Гэтыя словы запамятаў я на ўсё жыццё. Паўгода я нідзе не мог знайсці працы. У якія дзверы я не стукаў, усе яны для мяне былі зачыненыя. Тады я кінуўся ў Дуброву-Беластоцкую. Там у фінансавым аддзеле прапрацаваў ад 1964 да 1975 года. А вось апошнія дзесяць гадоў перад пенсіяй быў юрыдычным кансультантам у ПКСе, бо па прафесіі ж я — юрыст, закончыў Варшаўскі універсітэт.

Дванаццацігадовым хлапчуком апынуўся Пятро Германюк у чужым асяроддзі. Тады, у сорак дзевятым, якраз яго бацька атрымаў тут працу. Мы беларускасці не выракаліся ніколі, дзе б не былі, гаворыць мне Пятро Германюк. Не толькі бацьку, але і нам у крыві засталося, што мы — беларусы. А рэлігія на другім плане. Жонка мая, Уладзіслава, яна каталічка, родам з Ваўкавыска. А, дай Божа, каб усе праваслаўныя маці выхавалі сваіх дзяцей у такім духу беларускага патрыятызму. Усе трое дзяцей — Ігар, Аркадзь і Людміла — хрышчаны ў царкве. Жонка нічога не мела супроць, а наадварот — сама гэтага хацела. Ва ўсіх дзяцей у пашпартах і розных анкетах ясна напісана: **беларус**. Вось вы ў „Ніве" пішаце, што добры беларус — гэта праваслаўны. А Янка Купала, а Францішак Багушэвіч — яны што, не беларусы?! А хоць бы і мая жонка. Яна мне ў маёй дзейнасці ніколі не перашкаджала, а толькі памагала.

Пятро Германюк ад 1978 года быў на чале Аўгустоўскага гуртка Беларускага таварыства, ад таго часу, калі памёр яго бацька Хведар Германюк, які раней вёў гэты гурток. Шкада, што гурток ужо практычна не існуе, з нейкім сумам у вачах заўважае Пятро. Людзі паўміралі, а іх дзеці найчасцей сустракаюцца ў кампаніі, у агародчыках. Грамадская дзейнасць замірае.

Германюкі-бацькі прыехалі ў Аўгустоў з пушчанскай вёскі Доўгі Брод. У часе вайны, успамінае Пятро, які быў тады яшчэ дзіцём, немцы за супрацоўніцтва з партызанамі нашу вёску разабралі і перакінулі нас у Вілюкі. На сваё месца, у Доўгі Брод, мы вярнуліся тады, калі прыйшла Чырвоная Армія, у сорак чацвёртым. Бацька арганізоўваў ячэйкі ППР. Прыйшла банда „Зыгмунта" па яго. А бацькі якраз не было, бо быў на сходзе ў суседнім сяле. Замест бацькі ўзялі Васіля Германюка, майго дваюраднага брата, вучня лясной школы ў Белавежы, і расстралялі яго ў Вілюках, а Вілюкі спалілі.

Так што бацька ўжо цвёрда ведаў, уздыхнуў Пятро Германюк, што банды спакою яму не дадуць. Пайшоў на працу ў бяспеку ў Бельск-Падляшскі. Ну, і неўзабаве накіравалі яго ў Аўгустоў, але ўтрымаўся на гэтай працы таксама ўсяго год. Аказаўся непрыдатны, бо, працуючы ў гаспадарчым аддзеле, звярнуў увагу шэфу, што карыстаецца бясплатна службовым вугалем.

Але Германюкі засталіся ў гэтым, як кажа мой размоўца, чужым асяроддзі, і ўраслі ў яго. Сын Пятра Ігар быў ужо ў Гданьскім універсітэце на юрыдычным факультэце. На першым курсе пазнаёміўся з дзяўчынай з Тарэспаля. Калісь прыехаў і пачаў расказваць, што яе дзед быў беларусам. Ну, кажу я жонцы, калі з гэтага канца пачаў, трэба рыхтавацца да вяселля.

І праўда, ужо яна спадзявалася дзіцяці. Кінулі сваю навуку і пажаніліся. Перад шлюбам дзяўчына пайшла да каталіцкага ксяндза тут, у Аўгустове, па нейкія дакументы, бо вырашылі ўзяць шлюб у царкве. А ксёндз пачаў: „Dziewczyno, co ty myślisz, musisz za kacapa wychodzić?! Czy tobie swojego chłopca brak?" Як яна не тлумачыла яму, што ўжо пазнала сям'ю Ігара, нічога не дапамагло. Тады ўперлася: калі ксёндз так ставіць справу, дык гэта мой апошні крок у касцёл; прыходжу да вываду, што праваслаўная вера „mniej zakłamana i wolę przejść na tę wiarę". А мелі ж раней застацца пры сваёй веры, хаця збіраліся браць шлюб у царкве. Па згодзе архіепіскапа Савы нявестка перайшла на праваслаўную веру і дзяцей хрысцілі ў царкве.

Усё можа быць, калі ёсць згода, сцвярджае Пятро Германюк. Усе жылі разам, у гэтай нашай 42-метровай кватэры ў блёку. Усім неяк хапала месца ў невялікіх двух пакойчыках нават тады, калі нарадзілася наша ўнучка Клаўдзія.

Сёння Клаўдзія ўжо ў трэцім класе і добра ведае, што абазначае і Пагоня, і бел-чырвона-белы сцяжок, што вісяць на сцяне ў дзедавай хаце. Ад бацькоў выбраліся маладыя толькі тады, калі нарадзіўся ўнук Віктар, якому хутка будзе тры гады. У хаце засталіся 28-гадовы Аркадзь і 22-гадовая дачка Людміла-Эліза. Сыны Ігар і Аркадзь, якія дыплом магістра будаўніцтва атрымаў у Кашалінскай ВСІ, вырашылі ўзяцца за бізнес. Вядуць яны ў рамках цывільнай суполкі **„Рэд-клуб"** над Нэттай у Аўгустове. Лічаць найбольш на моладзь, якая займаецца водным спортам. Ёсць тут кавярня і більярд. Бацькі і сястра памагаюць ім як могуць, каб выйшлі, як кажуць, на сваё. Працуюць ад 12-ай гадзіны часамі аж да чацвёртай раніцы, калі ёсць людзі. З сабою не лічацца. Нічога не зробіш — трэба жыць па-сучаснаму.

У пяцьдзесят шостым бацька Пятра Германюка спецыяльна паехаў у Беласток купіць першы нумар „Нівы". Прывёз яе, дома чытаў і плакаў. Цешыўся, што цяпер ён тут не адзін. Пасля ўвесь час яе купляў. Пятру Германюку „Ніву" рэгулярна адкладаюць у кіёску. Мае ён амаль усе экземпляры ад сямідзесятага года. Наракае, што часта даводзіцца інтэрвеніяваць, бо бывае, што газета прыходзіць у Аўгустоў нерэгулярна.

Калісь, калі Пятро быў яшчэ студэнтам, яго калега-паляк сказаў яму: „Ты, курва, тыповы кацап. Не падшываешся пад паляка. Напамінаеш мне ў нечым Яновіча. Я такіх, як вы, ненавіджу, але і шаную".

Пятро Германюк за гэтыя словы не абразіўся, а нават яму гэта спадабалася.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Уся сям'я Германюкоў дапамагае сынам у „Рэд-клубе".*

# Па запрашэнні „Бацькаўшчыны"

*(працяг са стар. 4)*

Увогуле, слухаючы на працягу двух дзён вялікай колькасці рэфератаў, склалася ўражанне непрадуманасці ідэі канферэнцыі. Пара ўжо, каб такія сустрэчы пачалі мець і канструктыўны бок, а не толькі быць арэнай для тых, якія жадаюць узяць слова. Тады і сэнсоўныя выступленні губляюцца, як хаця б Вірджыніі Шыманец з Францыі. А так выглядае, што культура беларуская ў замежжы існуе нядрэнна, а да гэтага яшчэ беларускія вучоныя яе вывучаюць. Аднак толку ад гэтага мала, бо ўсё ж такі беларуская культура ў замежжы знаходзіцца ў вельмі складаным становішчы.

Больш цікавымі мерапрыемствамі, якія наладзіла „Бацькаўшчына" былі вечарына, прысвечаная юбілярам: Сакрату Яновічу, Янку Запрудніку (з ЗША) і Аляксандру Надсану (Вялікабрытанія), а таксама дыскусія пра месца і дату II З'езда беларусаў свету. Дастойныя юбіляры (не прыехаў А. Надсан) сядзелі за прэзідыяльным сталом на сцэне ў Доме літаратара. У іх адрас — як гэта прынята з нагоды юбілеяў — паплыло шмат ветлівых пажаданняў, успамінаў. Дарэчы, Янка Запруднік, якому споўнілася 70 гадоў, зараз адчувае сябе намнога маладзей, а Сакрат Яновіч цешыцца, што яму „60 а не 18". Вядома, Сакрат чытаў свае апавяданні. Ягонай творчасці падчас канферэнцыі свае выступленні прысвяцілі Ганна Запартыка — дырэктар Архіва літаратуры і мастацтва і Аляксей Пяткевіч з Гродна.

Вельмі гарачай аказалася дыскусія над месцам правядзення II З'езда беларусаў свету, які павінен адбыцца праз год. Старшыня Рады „Бацькаўшчыны" Ганна Сурмач назвала дату 26-27 ліпеня будучага года і вядучую тэму з'езда „Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце". Спадар Аляксандр Баршчэўскі прапанаваў на месца з'езда Менск. Большасць не мела сумненняў, што з'езд павінен адбыцца ў Беларусі. Сакрат Яновіч прапанаваў Гародню, нехта іншы Шклоў (радзіму прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі) ці Полацк. Юрась Беленькі з БНФ не пагаджаўся з такім становішчам лічачы, што тады „мы падтрымоўваем рэжым Лукашэнкі". З'езд павінен адбыцца па-за межамі Беларусі. Прапановы былі розныя: Вільня, Беласток, Прага, Львоў, Масква. Былі нават думкі, каб не прымаць пакуль пастановы аб часе і месцы правядзення з'езда, а „пачакаць, што будзе рабіць Лукашэнка". Аднак большасць выказалася за правядзенне з'езда, менавіта ў Менску і ў днях 26-27 ліпеня 1997 г. Тады да сустрэчы на II З'ездзе!

**Лена Глагоўская**

# Эксперыменты са смерцю

*(працяг са стар. 1)*

месца, дзе ляжаў хлопец. Паліцыянт запісаў у сваіх нататках, што ў пацярпелага паламана нага, а так не было, спісаў, хто быў прысутны ў час агледзін, але ўнёс у той спісак людзей, якія ў той час былі ў бальніцы, ля непрытомнага Колі. Няясныя і сведчанні сям'і брата Аляўціны, Аляксандра Ануфрыюка, які сказаў, што выйшаў з дому, калі машына была ўжо адведзена сведкамі і лекарам, якія аказвалі дапамогу пабітаму хлопцу. Не цікавіўся Аляксандр таксама і тым, што да ягонай маці Анастасіі, Колевай бабы, якая займала палову вілы, што належала Аляўціне, два разы прыязджала скорая дапамога. Спаліў разам з другім братам Іванам адзенне Міколы (запісана ў пратаколе, што... па просьбе яго маці), выбіў бетон у тым месцы, дзе была пляма крыві, выліў бетон, каб змяніць пахіласць пляцу. Сын А. Ануфрыюка, Патрык, даказваў, што цела сваяка ляжала яшчэ ў іншым месцы і ў іншай пазіцыі. Кватарантка Настасіі Ануфрыюк, Агата Банькоўская, вяртаючыся з працы каля дзесятай вечара, бачыла з ганка на пад'ездзе „Ладу", якая стаяла наўскасяк, а з-пад яе выставалі ногі, — падумала, што ўнук гаспадыні штосьці робіць пад аўтамабілем. Нікога апрача яго на пляцы ў той час не было... Аляўціна падала гэтыя інфармацыі пракуратуры, але не выклікала гэта ніякай рэакцыі.

**Пракуратура не**

праяўляла зацікаўлення ўсім тым, што не пацвярджала афіцыяльнай версіі. Сарганізавала аднак уканцы „судовы эксперымент". Аляўціна Анапюк збірала сведкаў, якія рашуча пацвердзілі, што чулі выказванні Аляксандра Ануфрыюка ў тыпе „калі пачнеш будаваць, то **хтосьці згіне**".

Ад пару гадоў да 1992 г. працягвалася была

**сапраўдная вайна**

Аляўціны з яе братам Аляксандрам. Аляўціна першая выбралася з вёскі ў Беласток, добра выйшла замуж. Пацягнула за сабой радню. Мае блёк, але пабудавала з братам сваю палову „блізняка", каб было двум сынам, Колі і Мішы. Выхоўвала ад 11 году іх жыцця адна, рана аўдавелая. Сама жыла ў блёку, у вілу пасяліла маці, Анастасію, часта начаваў у яе Коля, улюбёны ўнучак. Хацелі да плоскага даху дабудаваць падстрэшак-„канвертоўку". А гэта не спадабалася Аляксандру. Увогуле ён дзіўны чалавек быў. Усчынаў скандалы, нацкоўваў на маці сваіх дзяцей. Цяпер, пасля чатырох гадоў пасля смерці Колі, адносіны яшчэ горшыя. Баба Насця енчыць цэлымі днямі і начамі немым голасам — якое гора: такая бяда ў сям'і, і яшчэ ўнучка адкопваць хочуць, ганьбіць святую праваслаўную зямлю і яго зняевачане цела. Адчувае душа бабулі, што вінаваты ў тым хіба яе ўласны сын.

**Адкапаць цела**

Колі Анапюка хацелі ўжо ў сакавіку гэтага года. Аляўціна, Міша і баба Насця прыкаваліся ланцугамі да магілы. Не далі. Бо чаго ж шукаць пад зямлёю фактаў, калі не зрабілі ўсяго, што трэба, з фактамі, якія да гэтай пары можна зверыць?! Стаіць жа машына ў гаражы, не чапаная ад тае пары, ёсць экспертызы, што яе пашкоджанні былі нанесены „асобамі трэцімі" знутры, ёсць сфальшаваныя дакументы, да якіх ніхто не хоча прызнацца (знаходзяцца яны між іншым у падручным зборы дакументаў пракуратуры — пратакол „візіі" ад 10.12.1992 г. К-725, 774-775); 6 мая 1996 г. справу пагасілі „па прычыне неўстанаўлення віноўнікаў злачынства", значыць, падробкі подпісаў сведкаў і паліцыянта! Адкуль усё вядома Аляўціне? Калі б яна не хадзіла,

**ніхто нічога**

і не ведаў бы. Прасіла зверыфікаваць усе версіі гібелі сына, у тым і забойства, узяць пад увагу незалежныя экспертызы з Беластоцкай політэхнікі, Інстытута аўтамабільных судовых экспертыз з Кракава (кожны з экспертаў выказваецца пра прапановы іншых як „апініі" і часам называе іх... глупствамі). З экспертыз вынікае, што пашкоджанні цела Міколы Анапюка мала магчымы ад машыны, якая практычна мала верагодна магла скаціцца ў бок гаража і затрымацца ў такой пазіцыі, тым больш што на дарозе стаяла прычэпа з чатырма тысячамі цэглаў... Справы цягнуцца да сённяшняга дня, традыцыйна адкіданыя Беластокам, ад Раённай да Апеляцыйнай пракуратуры. Пракуратура аддаляла доказавыя прапановы па прычыне таго, што не прытрымоўваліся працэсавай працэдуры, паколькі справа была ўжо вырашана. Занялася справай і Генеральная пракуратура (1993 г.). Дырэктар дэпартамента пытаўся: „Чаму доказы з допытаў сведка і выказванні спецыялістаў, якія неадназначна паказваюць на іншы ход падзей, не знаходзяць падстаў узнавіць пагашанае следства?.. У час чытання некаторых актаў следства маецца ўражанне, што ў ходзе следства ўзніклі недахопы і памылкі, якія былі адназначна інтэрпрэтаваны як такія, што не маюць уплыву на змену вызначэнняў. Для аналізуючага збоку не ёсць яны такія адназначныя."

Справу передалі Пракуратуры ў Сувалках (фальшывых подпісаў), цяпер у Любліне. І хоць пракурор разумее, як цяжка і балюча будзе сям'і перанесці гэта, прыйдзецца...

**правесці эксгумацыю**

каб даведацца, якія ў сапраўднасці былі прычыны смерці Міколы Анапюка. Чаму не зрабілі анатаміравання ў клініцы Медыцынскай акадэміі ў Беластоку? Аляўціна Анапюк і не ведала, што згадзілася была не рабіць гэтага, а нават напісала прашэнне і падпісала яго сваім прозвішчам. Толькі ў жніўні 1993 г. атрымала з Судовай медыцыны копію таго дакумента, падпісанага не сваёй рукой. Нягледзячы на тое, што братавая прызналася ў фальшыўцы, пракуратура гэтым не занялася. Галоўнае — сям'я. Не хацела быццам Нэля Ануфрыюк, каб швагерка перажывала. Разам з жонкай Аляксандра, сваёй залоўкай Нонай, тады пайшлі ды афармілі справу. Пані Нэля кажа, што ўсё будзе так, як трэба. Няма чаго чапаць прадвызначаную ўжо справу.

**Міра Лукша**

(*Прозвішчы персанажаў зменены.*)

# Гісторыя старой фатаграфіі

**Сярод дзесяткаў фатаграфій, якія захоўваюцца ў сямейным архіве Уладзіміра Пракаповіча з Мілейчыч, асаблівую каштоўнасць прадстаўляе самы стары здымак з 1920 года. На ім знята сям'я Пракаповічаў, якая пасля жахаў сусветнай вайны і бежанства шчасліва вярнулася на радзіму і вырашыла ўвекавечыць гэты радасны момант на фатаграфіі.**



— У пачатку нашага стагоддзя лічылі нас багатай сям'ёй, — успамінае Уладзімір Пракаповіч, якому неўзабаве споўніцца 85 гадоў. — Было ў нас тады 50 гектараў зямлі, чацвёра коней, свой парабак, а мой бацька, Якуб, быў яшчэ мяшчанскім старастам і старшынёй пазыка-ашчаднай касы. На месяц да выбуху першай сусветнай вайны паехаў ён у Брэст, дзе далі яму на патрэбы мілейчыцкай касы два мяшкі золата. У сувязі з тым, што яму нявыгадна было б падарожнічаць з такім цяжкім грузам, ён памяняў золата на папяровыя рублі. І толькі калі пачалася вайна, зразумеў, якую дапусціў ён памылку.

Летам 1915 года пачалося бежанства. Брат Аляксандр быў ужо тады афіцэрам у царскім войску і знаходзіўся дзесьці на фронце. Другі брат, Антон, які закончыў Духоўную семінарыю ў Свіслачы, але не быў рукапаложаны ў святарскі сан, быў пры бацьках. Калі ўсе сталі ўцякаць перад немцамі на ўсход, дзед Флор з бабуляй Марыяй выправілі нас у дарогу, а самі засталіся пільнаваць гаспадарку. Бацька меркаваў, што праз два тыдні вайна закончыцца і неўзабаве вернемся дадому. Але атрымалася зусім інакш і вяртанне стала магчымым толькі пяць гадоў пазней. Неабходнае дабро пагрузілі мы на фуры і паехалі ў напрамку Чаромхі. Бацька ўзяў яшчэ з сабою дакументы касы і рублі з надзеяй, што сітуацыя неўзабаве ўстабілізуецца. Брату Антону ўсё па дарозе ўкралі і да таго адбіўся ён ад рэшты сям'і. Бацькі, я, сёстры Ніна, Марыя і Аляксандра пагрузіліся на цягнік у Чаромсе і сышлі з яго ў горадзе Казлоў-Варонежскі (цяпер Мічурынск, Тамбоўскай вобласці). Быў гэта важны чыгуначны вузел на лініі Масква—Растоў-на-Доне. Бацька атрымаў працу на чыгунцы і працаваў там рабочым аж да выезду на радзіму.

Першымі вярнуліся браты Аляксандр і Антон, бо ў 1918 або 1919 годзе. Зараз пасля вяртання адкрылі яны сваю краму. Мы вярнуліся летам 1920 года і памятаю, што браты сустракалі нас у сваім магазіне. Усе мы тады радаваліся, што ўрэшце вярнуліся з бежанства і што ніхто з сям'і не загінуў у вірах вайны і рэвалюцыі. А потым быў зроблены гэты сямейны здымак. Мне тады было восем з паловай гадоў. Сяджу я ў цэнтры з катом на руках. Побач мяне сядзяць з аднаго боку бабуля Марыя і дзед Флор, а з другога — бацькі (Якуб і Марыя). На траве ляжаць браты Аляксандр (злева) і Антон, а стаяць сёстры Ніна (з букетам), Марыя і Аляксандра (з партфелем у руцэ).

*Запісаў*

**Віталь Луба**

# Крышку пра палітыку

Некалькі рэфлексій Грышы Мароза аб палітыцы („Ніва" н-р 37), што быццам бы мужык „палітыкі і перадвыбарчых абяцанняў мае па горла", заінспіравалі мяне глянуць на справу палітыкі і палітыкаў крыху шырэй, чым горла мужыка.

Спачатку трэба адказаць, што такое палітыка? Паводле „Słownika języka polskiego": „polityka — działalność władzy państwowej, rządu w dziedzinie społecznej, gospodarczej, kulturalnej, wojskowej i innych, dotycząca spraw wewnętrznych państwa lub stosunków z innymi krajami jak również stosunków klas, grup społecznych".

Па-мойму палітыка — гэта спосаб здзяйснення мэты, пастаўленай партыяй ці іншай групай грамадзян, пры дапамозе канстытуцыйнай улады. У дэмакратычнай дзяржаве, а такою з'яўляецца Польшча, выбаршчыкі маюць магчымасць уплываць актыўным удзелам у галасаванні на выбар мэты палітыкі. Мэту наогул акрэслівае партыя або іншая група. Калі грамадскасці ў большасці адпавядае пастаўленая мэта, выбірае яна сваіх прадстаўнікоў (паслоў, радных, сенатараў) для стварання законаў, каб дасягнуць пастаўленую мэту. Так больш-менш выглядае дэмакратыя ў дэмакратычнай дзяржаве. Затым, калі прымем, што фактычна мужыкі маюць палітыкі і перадвыбарчых абяцанняў па горла, то трэба разглянуць дзве гэтага прычыны. Першая, што мужыкі прызвычаіліся праз дзесяткі гадоў існавання так званай „камуны" да таго, што партыя (PZPR, ZSL) сама акрэслівала мэту (яна пастаўленая была ідэалогіяй), найлепшую паводле яе для грамадскасці, і акт галасавання быў толькі гэтага фармальным пацвярджэннем. Другая прычына — гэта проста разгубленасць. Мінула шэсць гадоў дэмакратыі. Партый маем многа. Розныя групы людзей ставяць іншыя мэты для сваіх прадстаўнікоў ва ўладныя структуры. Сяляне, і гэта зразумела, імкнуцца атрымліваць танныя крэдыты, бо працэс прадукцыі на вёсцы доўгі — ад вясны да восені, мець магчымасць танна „прадукаваць" і дорага прадаць, мець дармовага доктара і атрымліваць рэнту, калі міне ўжо адпаведны час працы на гаспадарцы. Але калі селянін хоча дорага прадаць харчовыя прадукты, то ён не выказваецца за дарагавізну, а толькі хоча найбольш карысна прадаць сваю вытворчасць. Такім чынам паўстае канфлікт т.зв. інтарэсаў. І тут уключаецца найлепшы рэгулятар канфліктаў, слаўны і справядлівы — рынак. Ён зусім не мае сумлення. Таму лепшыя прадпрыемствы выцясняюць з рынку горшыя. У рыначнай эканоміцы мужыцкая гаспадарка таксама падлягае законам рынку. Роляй палітыкаў павінна быць стварэнне магчымасці існавання ўсім суб'ектам рынку, а перад усім людзям, якія жывуць з працы, не капіталу. Маю на ўвазе людзей, якія працуюць у так званай надбудове: асвеце, навуцы, ахове здароўя, ахове правапарадку (паліцыя), ахове дзяржавы (войска) і іншых.

Нас, значыць беларусаў, цікавяць усе галіны палітыкі, так як кожнага грамадзяніна дзяржавы. Тады выбіраем у парламент прадстаўнікоў такой партыі, якая гарантуе нам найлепшыя ўмовы жыцця. Але грамадскасць не вольная ад нацыяналізмаў у найгоршым, ксенафабічным іх варыянце. Пагражае ён не толькі нацыянальным меншасцям, але і ўсякім меншасцям, проста іх ліквідацыяй, ці то ў выніку асіміляцыі, ці то ў выніку прымусовай міграцыі, ці то фізічнай ліквідацыі (галакост яўрэяў). Нам, беларусам, пагражае поўная асіміляцыя з польскай большасцю. Зразумелы быў бы гэты працэс, калі б была нас жменька, але беларусаў пражывае ў Польшчы некалькі соцень тысяч. Жывуць яны кампактна ва ўсходняй Беласточчыне, маюць, пакуль што, сваю мову, асвету, культуру і т.д. Маюць сваю шматтысячную інтэлігенцыю і ёсць некалькі дзесяткаў тысяч грамадзян свядомых сваёй нацыянальнасці. Затым, так як кожны народ, таксама і беларусы хочуць існаваць, развівацца і тварыць, перад усім у сваю карысць, але і ў карысць усіх жыхароў дзяржавы. Калі так, то трэба выбраць, пры нагодзе выбараў, такую партыю, такіх палітыкаў, якія гарантуюць свабоду і магчымасць існавання беларускай меншасці. Калі ўсяго гэтага маем, як піша Грыша Мароз, па горла, тады так як беларусы ў Рэспубліцы Беларусь, якія галасавалі, каб быць расейцамі, і мы загаласуем, каб быць палякамі. Потым толькі ад часу да часу прыедзе ў вёску фальклорны калектыў і прыпомніць нам нашу быль.

**Міхась Куптэль**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXI**

Цытаваны ў апошніх адрэзках майго цыкла „Радзіма — Родзіна" Антон Адамовіч між іншымі выказваўся аб патрыятычных і маральных якасцях беларусаў у Савецкай Беларусі і беларусаў з Беласточчыны. Трэба сказаць, што параўнанні гэтыя не заўсёды былі карысныя для беластачан. Сёння прывяду тыя фрагменты выказванняў Антона Адамовіча, якія адносіліся да гэтага пытання.

„Вы ведаеце, што пакуль што на Захад, а тым больш у Амерыку прыязджае беларусаў з Беласточчыны, а тым болей з Савецкай Беларусі, нямнога. Аднак кантакт з імі насоўвае пэўныя ацэнкі і вывады. Ну, папершае дык трэба сказаць, што савецкія беларусы моцна скаваныя. Няма сумнення, што кожны, хто адтуль да нас прыязджае, пераходзіць праз страшэнны млын кантроляў, псіхічных апрацовак, якія зводзяцца да застрашвання і духоўнага тэрору. Папаўшы сюды, большасць з іх пераканана, што амерыканскія органы акружаюць іх сеткай агентаў, якія сочаць за кожным іх крокам. Зразумела, што гэтыя бедалагі ў большасці перакананы, што гэтымі агентамі з'яўляюцца ўсе беларусы-эмігранты. Вось згэтуль і бярэцца іх асцярожнасць, частыя дэкларацыі аб багатым і справядлівым жыцці ў Савецкім Саюзе. Людзі гэтай катэгорыі вельмі крытычна адносяцца да амерыканскай рэчаіснасці. Яны бываюць да такой ступені наіўныя, што вераць у тое, што магазіны на Захадзе багатыя толькі таму, што амерыканскае грамадства настолькі беднае, што не ў стане купіць найбольш патрэбныя прадукты і тавары. Але ведаем, што характарызуюць іх і свайго роду гонар і гордасць, дзякуючы якім яны не праяўляюць жабрачай псіхалогіі, не прадстаўляюць сябе як прыгнечаных і зняволеных і не просяць дапамогі. Так выглядае справа з людзьмі савецкімі. А як выглядае яна з беларусамі з Беласточчыны? Выглядае зусім па-другому. Аб беластачанах не скажаш, што яны прыязджаюць запалоханыя і вераць ва ўбоства амерыканцаў, якія не маюць грошай на прадукты і тавары. Гэта не адзіная розніца паміж беларусамі савецкімі і беластоцкімі. Галоўная розніца праяўляецца ў тым, што беластачане гавораць аб сваім убостве і аб тым, што польскія ўлады іх праследуюць. Вядома, гэта выглядае досыць камічна. Прыязджае да нас беларус добра апрануты, відаць — добра адкормлены. Часта даходзілі да нас чуткі, што ён у Польшчы мае і машыну, і дом, і добрую работу. Але тут ён сябе прадстаўляе як ахвяру сістэмы. А вы ведаеце, што хто як хто, але я — савецкі вязень, ведаю як выглядае рэпрэсіраваны чалавек у камуністычнай сістэме. Да сённа памятаю рваныя фуфайкі, дзіравыя боты, сінія худыя твары. Ну і вядома, што рэпрэсіраваны чалавек не толькі не меў замежнага пашпарта, але і савецкага таксама. І нават адбыўшы пакаранне, не толькі не мог ехаць за мяжу, але нават да сваёй хаты. Ну, дык калі так слухаю вашых беластачан, калі яны прадстаўляюць сябе як ахвяр камунізму, дык сама сабой разумеецца, што адносіцца да іх крытычна. Чым яно ўсё можна вытлумачыць? Вельмі проста: многія вашы беластачане, гаворачы аб сваёй падняволенай сітуацыі, хочуць выклікаць спачуванне і дапамогу з боку эмігрантаў.

Зразумела, што сказанае мною не адносіцца да ўсіх. Калі б я сказаў гэта аб усіх, дык многіх пакрыўдзіў бы. Для прыкладу, вы не толькі не гаворыце, што вы ахвяра сістэмы, але даказваеце, што ўсё, што асягнулі, збылося дзякуючы пасляваенным пераменам. Вельмі добрыя ацэнкі чуў я пра Юрку Туронка, які, прыязджаючы на Захад, не толькі не прадстаўляе сябе як ахвяру і не просіць міласціны, але прыязджае з акрэсленай сумай сваіх грошай, бо хоча жыць на Захадзе годна, ганарова і незалежна.

Вось бачыце, такія розніцы кідаюцца ў вочы пасля кантактаў з савецкімі і беластоцкімі беларусамі.

Зразумела, што я сказаў толькі аб дробных праявах розніцы паміж аднымі і другімі. Ну, якія з гэтага ўсяго можна зрабіць вывады? Мабыць, такія, што савецкія беларусы павінны старацца вырвацца з духоўнага зняволення, а беларусы з Беласточчыны павінны пазбыцца можа езуіцкае хітрасці, якая моцна шкодзіць чалавечай годнасці і пхае іх у канцы канцоў да самапаніжэння.

**Алесь Баркі**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Калі ў 1939 годзе ў Вільню прыйшлі саветы, зноў усё ад прадзядзькі, Парфенція Амельянюка значыцца, адабралі, і ён стаў галадаць. Ад такога неперспектыўнага чалавека адышла і баба. Яна стала жыць з нейкім энкавэдзістам (відаць, надалей атракцыйная халера была). Гэта яна перадала брату Парфенція, Аляксандру, што Парфенцій галадае, калі прыязджала ў госці дадому.

Аляксандр перадаў ёю пасылку і праз нейкі час атрымаў ад Парфенція ліст з падзякай за сала. І гэта была апошняя вестка ад яго. Хутка распачалася новая, нямецка-савецкая вайна.

Загінуў Парфенцій у час савецкай або нямецкай акупацыі Вільні. Калі канкрэтна загінуў, як і ад каго ці чаго, ніхто з радні не ведае.

Так згасла яркая прадзядзькава зорка. І як тут, скажыце, не згадзіцца са словамі рускай песні:

*Судьба играет человеком,*
*Она изменчива всегда:*
*То вознесёт его высоко,*
*То бросит в бездну без стыда...*

Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе ідэалаў нашы высокія благароддзі Парфенцій Амельянюк і Ігнат Нікалаюк не прынялі, былі вялікімі прыцёўнікамі яе. І патаптала-знішчыла яна іх: аднаго ў Вільні, а другога дзесьці ў Азіі. Калі не ўспеў Ігнат Нікалаюк у баі загінуць, то напэўна расстралялі яго потым.

Ці астаўся хтосьці ў жывых з сям'і — невядома. Калі ж астаўся, павінен пражываць дзесьці ў граніцах былога Савецкага Саюза.

У шасцідзесятых гадах нашчадкі польскіх Нікалаюкоў знайшлі нейкага савецкага Нікалаюка. Ён мог быць сынам або ўнукам Ігната, але да сваяцтва з Ігнатам ён не прызнаваўся. І магчыма так яно і было, а магчыма і не. Гэта ж быў яшчэ страшэнна дзікі час, і было небяспечна мець сярод сваіх продкаў царскага палкоўніка і двараніна.

Вось менавіта таму многія савецкія грамадзяне свядома адракаліся прошлага свайго і продкаў сваіх. І пераважна тады адракаліся, калі гэтыя продкі былі слаўныя і не бедныя ў іх. Нейкая недарэчнасць, дурнота, парадокс адным словам. Так і зубожылі маральна і матэрыяльна сваю краіну праз дзесяткі гадоў такой палітыкі...

А цяпер прыгляньмася далейшым лёсам тых членаў дзедавай сям'і, якія вярнуліся з бежанства і тым, якія не вярнуліся.

Цяжка і бедна жылося нашым беларусам у санацыйнай Польшчы. Кепскія былі адносіны польскіх санацыйных улад і мясцовай адміністрацыі да іх. І цяжка было з нічога разжывацца.

Яшчэ горшы быў лёс нашых беларусаў, якія не вярнуліся дадому, а асталіся ў Савецкім Саюзе. Многія з іх, калі не загінулі ад голаду, холаду, хваробы, то маглі быць расстраляны, замучаны ці мучаны ў сталінскіх турмах...

Вярнуліся дадому, як было ўжо сказана, толькі дзед з наймалодшым сынам Віктарам. Дзед Амяльян надалей карыстаўся абодвума родавымі прозвішчамі, сын яго Віктар, да сваёй жаніцьбы — таксама. У час жаніцьбы быў на толькі джэнтльменам, што выбраць прозвішча для іх новай сям'і запрапанаваў маладой жонцы Серафіме Сянкевіч. Яна захацела быць Сакоўскай — і так ужо асталося, усе сталі пісацца толькі Сакоўскімі.

Калі выдавалі новыя пашпарты ўжо ў час народнай улады, мама і мы, дзеці, надалей без праблемаў асталіся Сакоўскімі, а тату выдалі пашпарт на прозвішча Антанюк, бо на такое прозвішча меў метрыку. Стаць зноў Сакоўскім мог цяпераза праз суд, што ён і зрабіў.

Большая частка дзедавай сям'і не вярнулася з дзедам дадому, а асталася ў Расіі, якая з цягам часу перастала быць Расіяй, а ставалася Савецкім Саюзам. Частка з іх была ўжо ў магілах, а частка — яшчэ жыла. Жывымі былі тры дзедавы дачкі: Ганна, Ліза, Ксеня і сын Васіль. Яны аставаліся ў Расіі па двух прычынах: звязаліся з расіянамі сямейнымі або ідэйнымі вузламі. Не малую ролю ў такім разбіцці дзедавай сям'і адыграла, канешне, і тое, што сям'я страціла маці.

Пад рознымі прозвішчамі жылі яны там і па-рознаму склаўся іх лёс, але быў ён вельмі цяжкі і трагічны.

Ганна насіла прозвішча другога мужа — Кліменка. Ліза наадварот, нават стаўшы жонкай Дудкіна і нарадзіўшы дзве дачкі Дудкіны, да самай сваёй смерці захавала прозвішча Сакоўская. Ксеня — не ведаю, а Васіль быў Антанюком. Пра іх лёс раскажу ў наступным адрэзку.

***(працяг будзе)***

# Позірк у мінулае

**3 лістапада**

1801 г. — нар. Вінчэнца Бэліні, італьянскі кампазітар.

1882 г. — нар. Якуб Колас.

1903 г. — Панама аб'явіла незалежнасць ад Калумбіі і здала ЗША ў арэнду частку сваёй тэрыторыі пад будову Панамскага канала.

1941 г. — памёр пісьменнік Змітрок Бядуля.

1957 г. — у СССР запушчана „Спутнік-2" з сабакам „Лайка".

1973 г. — у ЗША запушчана касмічны зонд *Mariner 10*, які праляцеўшы побач Венеры ўпершыню наблізіўся да Меркурыя.

**4 лістапада**

1979 г. — у Тэгеране ісламскія студэнты захапілі ў 444-днёвы палон супрацоўнікаў пасольства ЗША.

**5 лістапада**

1370 г. — памёр Казімір III Вялікі, польскі кароль.

**6 лістапада**

1880 г. — нар. Роберт Музіль, аўстрыйскі пісьменнік.

1893 г. — памёр Пётр Чайкоўскі, расейскі кампазітар.

1913 г. — Махатма Гандзі разам з 2200 прыхільнікамі перайшоў, нягледзячы на забарону ўладамі, граніцу між Трансваалем і Паўднёвай Афрыкай у знак пратэсту супраць расавага аддзялення (апартэіду).

1971 г. — на выспе Амчытка (Алеўты) ЗША правялі наймагутнейшае дагэтуль падземнае атамнае выпрабаванне.

**7 лістапада**

1598 г. — нар. Францыска Сурбаран, іспанскі мастак.

1659 г. — падпісана Пірэнейскае перамір'е, у якім усталявана мяжу між Францыяй і Іспаніяй.

1867 г. — нар. Марыя Складоўская-Кюры, польска-французская вучоная.

1869 г. — першая гонка на трасе Парыж—Руан.

1896 г. — нар. паэт Міхась Чарот.

1917 г. — бальшавікі на чале з У. Леніным і Л. Троцкім скінулі мяшчанскі расейскі ўрад А. Керанскага.

1918 г. — у Мюнхене звергнута пануючую там ад 1180 г. дынастыю Вітэльсбахер, а наступнага дня аб'яўлена Баварскую Рэспубліку.

1968 г. — Бэата Кларсфілд ударыла канцлера ФРГ Курта Кізінгера, абзываючы яго нацыстам. У той жа дзень была яна засуджана на 12 месяцаў турмы.

1991 г. — Ленінграду вернута ранейшую назву Санкт-Пецярбург.

**8 лістапада**

1895 г. — нямецкі фізік Вільгельм Рэнтген адкрыў новы від радыяцыі, названы ад ягонага прозвішча рэнтгенаўскай.

1900 г. — нар. Маргарэт Мічэл, амерыканская пісьменніца.

1922 г. — нар. Хрысціян Барнард, паўднёваафрыканскі кардыяхірург.

1926 г. — нар. паэт Дзімітры Шатыловіч.

1935 г. — нар. Алан Дэлон, французскі акцёр.

1990 г. — у Албаніі адкрыта замкнутыя ад 1967 г. святыні.

**9 лістапада**

1818 г. — нар. Іван Тургенеў, расейскі пісьменнік.

1938 г. — „Крыштальнай ноччу" распачаўся ў Германіі адкрыты праслед яўрэяў.

1950 г. — першы паветраны бой між рэактыўнымі самалётамі; у Карэі амерыканскія машыны схваціліся з савецкімі МіГамі. **(Ш)**

# Парнасік

## Нашы вёскі пусцеюць

Нашы вёскі пусцеюць,
Людзей духам не грэюць.
І чым далей —
Штораз гарэй!
Ідуць на Грабарку,
Ды мала з гэтага толку.
Крыж не дасць паратунку
Нават найлепшаму гатунку.
Сімволіка нікога не паратавала
І жыцця вечнага не даравала.
Мастак можа зрабіць крыж, ікону
Толькі ў сваю „абарону".
Вернікі гэта будуць цалаваць
І мёртвы прадмет праслаўляць.
Нам патрэбна жывая вера
І добрыя ўчынкі — у рай дзверы.
Хаця паломнікі — амаль усе з горада
І выглядаюць жвава, молада,
„Ніва" ім чужая
І родная мова ліхая.
І мацярацца, як старыя бабы,
Таму вера і дух іх слабы.
Ды і па вёсках гэтая „мода" расце
І „плён" свой нясе.
Без вайны нам пагражае катастрофа
І цяжкая дарога.
А толькі таму, што нашы вёскі пусцеюць
І шэрагі патрыётаў радзеюць.
А маладыя найчасцей — ні рыба, ні мяса;
І марнага „класа".
Што будзе далей — не ведаю
Але свае засцярогі вам перадаю.
Падумайце, чытачы, што нам рабіць?!
Хіба ў трывогу нам біць.
Абыякавасць, раскошы бестурботныя —
Гэта „чорныя вораны" смяротныя.

**Мікалай Панфілюк**

## Унукам

Унукі, мае ўнукі,
Ўсіх я вас кахаю,
Шчасця ды здароўя
Я для вас жадаю.
Куды б хто не паехаў,
Дзе б не пасяліўся,
Кожнаму трэба помніць,
Што тут нарадзіўся.
Над ракою Нарвай,
Каля Лядскай пушчы,
А можа ў славутай
Белавежскай гушчы.
Вучыцеся добра,
Ідзіце ведаў следам,
Таго вам жадаюць
Вашы баба з дзедам.
Кланяйцеся нізка
Сваім бацьку й маці
І не забывайце
Дзедавае хаты.

**Мікалай Лук'янюк**

## Восеньскае

Восень, восень, пладоў многа,
Кожны можа штось нажыць.
А нам працай земляроба
Трэба даражыць.
У царкве паставім свечку,
Дамо грошы за кажух.
Дамо і за авечку.
І да хлеба любоў маем,
Пішам, малюем, вышываем,
Прыгожыя песенькі спяваем.
Будзем прасці, будзем ткаць,
Пра парадак у доме дбаць.
А як хто ўжо нямоглы,
Бог сапраўды можа даць.

**Мар'я Пень**

# Самародны талент

14 кастрычніка — Пакрова — у Дубічах-Царкоўных вялікае свята, бо наша царква — Пакроўская. Сёлета свята выпала ў панядзелак, дзень быў цёплы і прыгожы. Я пакрыстаўся нагодай, што многія пенсіянеры прыйшлі ў царкву, і побач выплачваў ім грошы. Людзей зышлося многа, многа таксама з'ехалася розных гандляроў са сваімі таварамі. Маю ўвагу звярнуў адзін прадавец, які сваім пакупнікам адказваў па-беларуску і заўсёды салёнымі, рыфмаванымі анекдотамі.

Захапіла мяне гэта так, што я не вытрымаў і сказаў яму, што ён вялікі народны паэт, якому нават нашы „белавежцы" маглі б пазайздросціць. Дзядзька тут жа адрэзаў мне салёным — не паўтару яго — анекдотам, якім мяне шчыра развесяліў.

Значыць, сярод нас, беларусаў, ёсць самародныя таленты, пра якіх мы не ведаем, і адкрываем іх зусім выпадкова. Помню, як калісьці я са спадаром Міколам Гайдуком ездзілі ў Тафілаўцы да пакойнай ужо Устыніі Галько (было пра гэта ў „Ніве"). Яна спявала старыя, яшчэ царскага часу, прыпеўкі, а сп. Гайдук запісваў іх на магнітафонную плёнку. Змест тых прыпевак быў таксама салёны, аднак М. Гайдук высока ацаніў іх, як прыклад старой народнай спадчыны.

**Мікалай Панфілюк**

# Вер — не вер

Астроне! Мне прысніўся такі сон. Быццам (я ведаю гэта цвёрда) мая дачка нарадзіла двайнят — двух хлопчыкаў. Але чамусьці дачка мітусіцца ў хаце, а каля нованароджаных ляжу я. Так выглядае, што гэта я нарадзіла, а не дачка. І так ляжу я на падлозе, а побач са мною, загорнутыя крыху ў нейкі плед, ляжаць два голенькія, белабрысенькія, харошанькія хлапчукі.

Я ляжу, а дачка — чамусьці сама — пачынае купаць аднаго хлопчыка. Гляджу, а каля мяне ізноў ляжаць двое хлопцаў. Я паведамляю дачцэ, што яна нарадзіла не двое дзяцей, а трое. Усе трое — хлопцы. Я цешуся, бо ў яе ёсць толькі дачушка. Што гэта можа прадвяшчаць — гэты дзіўны сон?

**Маня**

Маня! Ты, пэўна, спадзяешся, што зараз жа пасыплюцца табе доўгачаканыя ўнукі?! А твой сон зусім не гаворыць аб тым, што сям'я тваёй дачкі пабольшыцца, але сцвярджае, што чакае вас нешта добрае. Чаму „вас"? — Таму, што менавіта ты ляжала побач з нованароджанымі. Дзіця ж у сне прадвяшчае поспех у справах і дабрабыт. Каля цябе ляжала аж трое даччыных дзетак, ды былі яны ўсе прыгожанькія. Дык і спадзявацца можна, што вашы справы пойдуць у добры бок. Для дачкі — гэта шчасце ў каханні.

Іншая справа, калі б прысніліся табе нейкія хворыя дзеці, калекі (і такое людзям часта сніцца). Тады, на жаль, трэба было б чакаць толькі непрыемнасцяў, нейкага ашуканства. Цябе гэта, на шчасце, абміне. **Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. участак для адпачынку ў горадзе, 8. цыганскі абоз, 9. адступленне, 10. каштоўны мінерал, 11. збянтэжанасць, 13. спрыяльны выпадак, 15. кампанент паветра, 16. правіла, звычай, 20. члены дэлегацыі (мн. л.), 22. патомак, 23. моцнае жаданне піць, 27. незвычайныя асаблівасці адлеглых краін, 29. сталіца Харватыі, 30. часціна распаленага рэчыва, 31. горад між Парыжам і Гаўрам, 32. японскае адзенне, 33. „крэсла" конніка, 34. напр. 25.03.1918 г.

**Вертыкальна:** 1. камплект ігральных карт, 2. белая пажыўная вадкасць, 4. паўночна-ўсходняя частка старажытнай Спарты, 5. „хворая" дзяржава на Блізкім Усходзе, 6. месца, праз якое выходзяць, 7. труба для адводу дыму, 12. жыхарка Мінска, 14. чэшскі гуманіст і педагог (1593—1670), 16. паласа, раён, 17. зварaныя крупы, 18. валакністы матэрыял, 19. з яго чорны хлеб, 21. выцяжка з арганічных тканак, 24. грыб з ліпкай шапкай, 25. чалавекападобная малпа, 26. частка мора, якая ўразаецца ў сушу, 27. заменнік, сурагат, 28. зборышча выпадковых людзей. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 н-ра:**

**Упоперак:** старт, інспектар, граза, атака, вал, Бельгія, юрлівец, зад, сінус, сотня, Царашкова, агіда.

**Уніз:** паненка, Сасна, „Татра", італьянец, рэалістка, гнейс, Алеся, вяз, люд, арэшнік, сэрца, слова.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


# Ніва

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Ніўка

## Пародыі

**Ты**

*Тобою напоўняны воздух...*
*Роб'ю — а тобою б'е сэрца.*

*Зося Сачко*

Ты — паветра, ты — дзівак,
Ты — маркота, ты — вахлак,
Ты — пакута, ты — сцяна,
Ты — маланка, ты — вайна,
Ты — бязмежжа, ты — града,
Ты — пілюля, ты — вада,
Ты — калодзеж, ты — шкілет,
Ты — настрой і ты — партрэт,
Ты — хвароба, ты — нуда,
Ты — імгненне, ты — бяда...
І куды цяпер мне дзецца,
Як табою б'еццa сэрца?

**Сяргей Чыгрын**

**Між тым...**

Дастаецца ўладзе вельмі танна
Інтэлектуальная путана.

**Гаўрыла Шворан**




*Мал. М. Варонiча*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Муж да жонкі:
— Каханая, гэты уік-энд урэшце правядзем з задавальненнем.
— А што прапануеш?
— Я паеду на рыбалку, а ты адведаеш сваю матулю.

* * *

— Як удаліся канікулы ў Аўстраліі?
— Цудоўна. Кожнаму было тое, што трэба: мне — начныя бары, жонцы — багатыя, быццам у Парыжы, крамы, дзецям — бясконцыя пляжы, і цешчы — акулы.

* * *

Маці вітае бацьку, які вяртаецца са школьнага сходу:
— І што гаварыла настаўніца пра нашага Грышу?
— Што гаварыла, што гаварыла! Цяля ты! Высылаеш мяне на школьны сход, а забываеш сказаць, у які клас ходзіць наш Грыша!

* * *

Сяброўкі перад кінатэатрам:
— Не пусцяць нас на гэты фільм — ён ад 18-ці гадоў...
— І так не магу пайсці — не маю з кім пакінуць дзіцяці.

* * *

Прыходзіць жанчына да лекара:
— Пан доктар, ці магу ўжо размаўляць з дачкою на тэму сексу?
— А колькі ёй гадоў?
— Шаснаццаць.
— Так, гутарце з ёю; зможаце ад яе многаму навучыцца.

* * *

— Будзем гуляць у хованкі, — прапануе дзяўчына свайму хлопцу. — Калі мяне знойдзеш, буду твая!
— А калі цябе не знайду?
— Тады я буду за шафай.

* * *

Заўзяты брыджыст памёр і адправіўся ў рай, але не пусцілі туды яго, а толькі адправілі ў пекла. Зайшоў ён у пекла і пытае чорта:
— Гуляеце тутака ў брыдж?
— Вядома! Не хапае нам аднаго да кампаніі...
— Дык давайце хуценька карты!
— Няма ў нас картаў...
— Тады як будзем іграць?
— Гэта і ёсць наша пекла!

## Лёс халасцяка

Калі падумаеш цвяроза,
Дык мала радасці ў жыцці...
Паў-Беларусі я прапоўзаў,
А жонку не магу знайсці.

Мяне абходзіць бокам шчасце,
Даўно бадзяюся дарма.
Усюды баб — гаці з іх гаці,
А вось патрэбнай мне няма!

Адна з пакрыўленай нагою, —
Як кажуць, Бог не убярог, —
Другая гоніць чапялою,
Як толькі ступіш на парог.

У трэцяй грошай вельмі мала:
Канцы з канцамі не звясці.
Ну, а чацвёртая... прымала
За ноч мужчын не менш пяці.

А тая — высахла, як шчэпка,
Трасецца, на кійку дрыжыць,
Якая ля такой зачэпка,
Калі з ёй месяц, пэўна, жыць!

Ніяк не ўзбіцца, каб па густу,
Нішто такое не плыве...
У той — зусім у хаце пуста,
У гэтай — пуста ў галаве.

У той — мужык яшчэ не здохшы,
З ёй ходзіць, звесіўшы „грыбы",
А ў той, што многа мае грошай,
Паўсталі нервы на дыбы.

— Нашто мне, — кажа, — дармаеды?
Сам гол, а лезеш во куды!
Паленам зараз як заеду —
Век не заявішся сюды!

Не загуляла каб па карку
У час нядобры чапяла,
Мне адступіць прыйшлося шпарка
Тады ад шлюбнага стала.

Так са сватоўствам доўга біўся,
Аж нылі ногі ад хады,
Але аднойчы прыжаніўся
На нейкі месяц, а тады...

Праз месяц вытурыла з хаты
(На покуць, сцерва, каб злягла!),
Забраўшы скарб свой небагаты,
Прыпоўз да роднага вугла.

А хата, хоць і гонтай крыта,
Ажно разлазіцца па швах.
А пасярод жытла — карыта,
І посуд брудны па кутах.

Як пойдзе дождж ці снег няспынны,
Сухое месца хоць бы дзе!
Такі мой быт да дамавіны,
Напэўна, хутка давядзе.

Прылашчыць родная зямелька
Мяне задумнага ў труне,
Як па ілбе гнілая бэлька
У час дажджлівы звездане.

Адкуль жа лёс такі сабацкі?!
У чым, у чым мая віна?!
Чаму мой ложак, халасцяцкі,
Як не занятая труна?

Прыляжаш і глядзіш угору,
І роздум верціцца такі:
За ноч апошнюю падпору
Падгрызці могуць пацукі!

Яны тупочуць, быццам коні,
Якім хтось стойлы адчыніў...
Бясконца цягнецца бяссонне,
А каб заснуць, дык ані-ні!

Няма гарэлкі і таблетак,
Хаця б для сну якой травы...
Жыву без жонкі і без дзетак,
А гэта ж — як без галавы!..

Хто вінаваты? Дэпутаты?
Ці, можа, дамавік які?
Ці камуністы-дэмакраты?
Каму, каму намяць бакі?!

**Халімон Гаротнік-Бабнікаў**
*(„Вожык")*

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Я са сваім хлопцам хаджу ўжо чатыры гады. Статны, высокі бландзін. Спачатку мне здавалася, што я яго кахаю, а цяпер дык і сама ўжо не ведаю. Мы з ім вучыліся на адным курсе ў вышэйшай школе, ды нават у адной групе. Увесь час разам. Раней мне здавалася, што калі мы пастаянна будзем разам, дык гэта будзе вялікае шчасце. А цяпер...

Уяві сабе, Сэрцайка (мушу паскардзіцца на самую сябе), што сёлета, калі ён паехаў на канікулы да бацькоў на вёску, дык я вырашыла праехацца з іншым хлопцам на Мазуры! Сяброўка, якая ведала, што я надумала, злаяла мяне. Глядзі, кажа, бо ўсё сапсуеш.

Пытаешся, што яна мела на думцы? Проста ведала, што ў нас з маім хлопцам ужо былі размовы пра шлюб, а калі б ён даведаўся, што я паехала з іншым...

Не буду табе расказваць, як было на Мазурах. Скажу адно: было цудоўна і я на той час амаль забылася, што збіраюся замуж за іншага. Але што з таго, калі ў Беластоку ён быў толькі на канікулах у бацькоў. Прыехалі, а ён адразу мусіў вяртацца ў Варшаву, бо цэлай групай ехалі на моўную практыку ў Англію.

Я засталася адна, быццам ля разбітага карыта. Чорныя думкі не давалі мне спакою. Першы хлопец не адзываўся — мусіў памагчы бацькам пры ўборцы ўраджаю, а другі патрактаваў мяне надта лёгка. Паехалі, адпачылі і — будзь здароў! А я спадзявалася, што ён будзе мучыць мяне лістамі, тэлефонамі. Лічыла на тое, што ён будзе паводзіць сябе, як закаханы хлопец, а ён нашы адносіны залічыў як адну са спраў, якую варта было зрабіць, як кніжку, якую можна было прачытаць.

Сяброўка, шчырая дзяўчына, усюды брала мяне з сабою. Аднойчы ў кавярні яна пазнаёміла мяне з мужчынам гадоў сарака. Я, праўду кажучы, такіх дагэтуль лічыла ўжо дзядулямі. Але ён быў іншы. Мы дамовіліся з ім сустрэцца ў той жа кавярні. Прыйшлі з сяброўкай. Ён яе зусім не саромеўся. Гаварыў мне кампліменты (нешта пра мае вочы і фігуру), дакрануўся да валасоў, гладзіў па карку. Дрыжыкі праходзілі па майму целу. Мне было так прыемна, як ніколі, хаця чалавек гэты не цягнуў мяне ў пасцель.

Мы ўтраіх хадзілі ў парк, у кіно — усюды, а чалавек гэты падабаўся мне ўсё больш. І тады мая сяброўка папярэдзіла мяне, каб я занадта не ангажавалася, бо ён — чалавек жанаты, а мае час, бо жонка з дзецьмі на адпачынку, а ён не атрымаў водпуску. Да ўсяго — ён закаханы ў сваю жонку і вельмі раўнуе яе да іншых мужчын.

У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладзела. Дык навошта дурыў мне галаву сваімі кампліментамі? Чаго хадзіў усюды з намі? Няўжо я яму зусім не падабалася, а проста так ён трапаў языком.

Я зусім расчаравалася ў мужчынах. Вярнуўся мой хлопец, і мне стала неяк цёпла і надзейна. Ты, Сэрцайка, пісала калісь, што калі ходзіш з хлопцам занадта доўга, дык можна „перахадзіць". Мне ўжо так здавалася, але толькі да гэтага лета. А цяпер я ведаю, што памылялася. І, пэўна, выйду замуж за свайго хлопца — вернага і закаханага. А як ты думаеш?

**Майка**

Майка! Думаю, што такая „праверка" пачуццяў была даволі небяспечным крокам. Усё магло здарыцца, калі ты, напрыклад, „праехалася" з іншым на Мазуры. Магла здарыцца цяжарнасць, мог убачыць нейкі знаёмы і данесці твайму нарачонаму. Адным словам, ты рызыкавала.

Ды і наогул, прабач, не разумею, як так можна: за аднаго збіраешся замуж, з іншым кахаешся на адпачынку... Ці для цябе гэтыя справы — як памяняць сукенку?! І ты са спакойным сумленнем глядзіш — пасля ўсяго гэтага — свайму хлопцу проста ў вочы?!

Тваё каханне да нарачонага сапраўды, відаць, прайшло, калі ты — замест чакаць яго ў той час, калі ён мусіў дапамагчы бацькам — шукала забавы з іншымі... Той старэйшы мужчына абсыпаў цябе кампліментамі, бо гэта яму нічога не каштавала, а весела праводзіў час.

Ты вярнулася да свайго хлопца пасля таго, як расчаравалася ў іншых, але ці ж гэта каханне? А калі б іншыя патрактавалі цябе больш сур'ёзна, дык ужо б нічога з вашых планаў не засталося б?!

Ой, калі б я, Сэрцайка, было мужчынам ці жанчынай, не хацела б мець такога партнёра, як ты... Бедны твой хлопец!

**Сэрцайка**